PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 49 (1856) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 8 СНЕЖНЯ 1991 г. ЦАНА 1000 зл.

## ПРА СУПРАЦОЎНІЦТВА

21 лістапада г.г., у дажджлівы восеньскі вечар у клуб пры вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку на сустрэчу з прадстаўнікамі беларускага таварыства „Радзіма" і старшынёй гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры Сяргеем Габрусевічам прыбыло шмат актывістаў БГКТ. Размовы датычылі супрацоўніцтва беларусаў з Рэспублікі Беларусь з іх суайчыннікамі з Беласточчыны. Прысутных прывітаў намеснік старшыні БГКТ **Янка Сычэўскі.**

**Мікалай Васілёнак**, намеснік старшыні таварыства „Радзіма", расказаў аб дзейнасці гэтай арганізацыі, якая супрацоўнічае з беларусамі ва ўсім свеце.

— Калі глядзець на вас на Беласточчыне — вы не такія суродзічы, якіх нейкія прычыны прымусілі пакінуць айчыну. Вы тут жылі і жывяце, — кажа спадар Васілёнак. — Вы з'яўляецеся часткай нашай душы, нашага народа. І гэта, што мы робім, павінны рабіць як адно цэлае. І мы абавязаны вам даваць самую вялікую дапамогу. На беларускі музей мы сабралі больш 270 тысяч рублёў. Гэта можа і невялікая сума, але за гэтыя грошы мы купілі шмат неабходных для музея рэчаў. Цяпер вось прывезлі 3 тэлевізары, крэслы, шафы, сталы, а ў нас з гэтым ёсць цяжкасці. Прывезлі, а польскія мытнікі сказалі заплаціць за ўвоз 25 працэнтаў кошту тавару! Забралі 4 мільёны з таго, што мы сабралі для свайго народу. І не маглі іх пераканаць — „права ёсць права". А палякі сваім суайчыннікам шмат чаго вязуць на Беларусь. Трэба звярнуцца з

( Працяг на стар. 3 )



## НА КУЗЬМУ І ДЗЯМ'ЯНА Ў РЫБАЛАХ

Рыбалы, гэта вялікая вёска на шашы Бельск — Беласток, дзесьці так у палове дарогі паміж гарадамі. 14 лістапада (1 паводле старога стылю) адзначаецца тут прыхадское свята Кузьмы і Дзям'яна. Царкву св.св. Кузьмы і Дзям'яна пабудавалі ў Рыбалах у 1874—79 гадах. Яна стаіць па сённяшні дзень, хаця не абміналі яе ліхалецці апошніх ста гадоў.

У 1915 годзе жыхары Рыбалаў, як і ўсяе ваколіцы, уцяклі ад немцаў у глыб Расіі. Вывезенае было тады ўсё абсталяванне царквы, большасць якога загінула. Парафіяне, хаця самі жылі ў вельмі цяжкіх умовах, царкву ў міжваенны час адбудавалі. А трэба памятаць, што не быў гэта спрыяльны час для праваслаўя.

Затым другая вайна. Улада мянялася адна за другою, як і няшчасці. Людзі шукалі паратунку ў царкве, у веры. Пасля вайны жыхары Рыбалаў, як і іншых вёсак прыхода, зноў узяліся за рамонт і аднаўленне царквы (таксама іншых сакральных аб'ектаў на сваёй тэрыторыі). Змяніўся зусім яе інтэр'ер.

Але час няспынна бяжыць, усё жывое старэе, а матэрыяльныя

( Працяг на стар. 6 )

****************************************



ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

## ЁН ІГРАЕ НА БЭМОЛЯХ

І няма рыцараў, хто паклаў бы жыццё на алтар адзінае каханае сьвятое спакутаванай безабароннай і бесьсьмяротнай Беларусі. І хочацца таемна спадзявацца, што ўсё ж такія ёсць у нашым краі. Вось жа побач зь нязгаснай чыстай зоркай красы, любові і паэзіі зьзяе імя Максіма Багдановіча.

Уклаўся ў тэрмін 25 гадоў 5 месяцаў і 16 дзён, аддаў радзіме талент, здароўе і час, памёр, ня здрадзіўшы ні ёй, ні чалавецтву. Да роднай мовы і сусьветнай культуры далучыўся праз чытаньне кніг. Здолеў вырасьці ў беларускага нацыянальнага генія. Вывеў сваю паэзію на сусьветны шлях... Тут, на ўскраі эўрапэйскага сьвету, толькі падрастаў, рабіў першыя крокі, вымаўляў першыя словы...

Бацька лічыў, што характар і талент Максім пераняў ад маці. У гэтым меркаваньні толькі доля праўды. Артыкулы, нарысы сына зьяўляюцца непасрэдным працягам бацькавых думак. У гэтай творчасьці Максім цьвяроза і спакойна, як бы назіраючы збоку, грунтоўна дасьледуе мінуўшчыну і сучаснасьць, пранікаючы думкамі ў будучыню.

У чэрвені 1892 прыехаў у Гародню бацька паэта Адам Ягоравіч, у лінепі перавёз маці з двума сынамі. Вадзім нарадзіўся ў Менску 6 красавіка 1890 году, аб чым у фондах нашага музэя ёсьць дакумант. Максім нарадзіўся 9 сьнежня (27 ліст. ст. ст.) 1891 у Менску. Ягонай хрышчонай маці была Вольга Сёмава, якой ён пасьля ў 1901 г. паказаў свае першыя вершы, і яна ацаніла іх як сур'ёзную працу.

У нашым горадзе сям'я памяняла некалькі прыватных кватэраў: дом Марушэўскага і дом Агульніка на Новым Сьвеце, дом Шміта на вул. Палявой. І сялянскі пазямельны банк, у якім працаваў бацька памочнікам бухгалтара, у той час знаходзіўся ў дамах Рэйнгарта ў Гарохавым завулку, у доме Ашкеназе на вуліцы Гараднічанскай. І публічная бібліятэка, у складзе праўленьня якой знаходзіўся Адам Ягоравіч, таксама мяняла месцы: дом Хомскага на вул. Садовай, дом Маруга на Маставой...

У Гародні парадзіўся 14 ліст. 1893 Лёва і 30 мая 1896 году дзяўчынка Ніна. Старэйшая сястра Адама Магдалена была яе хрышчонай маці. У музэі захоўваецца пасьведчаньне аб нараджэньні і хрышчэньні Лёвы і пасьведчаньне Ніны. Ёсьць і выпіска аб расходах на яе пахаваньне ўжо ў Ніжнім 10 лютага 1897 году.

Марыя Апанасаўна Багдановіч была другой дачкой наглядчыка Ігуменскай павятовай бальніцы Апанаса Іванавіча Мякоты, яе маці Тацяна Восіпаўна, у дзявоцтве Малевіч, была дачкой сьвятара. Сьцепаніда, Марыя, Аляксандра, Аня і малодшы хлопчык памёр у прытулку...

Марыя Апанасаўна вучылася ў Пецербургскай жаночай вучыцельскай гімназіі. Надрукавала ў літаратурным дадатку да „Гродненских губернских ведомостей" адно апавяданьне „Накануне рождества" за 23 сьнежня 1893. Памерла ад хуткацечнае чахоткі 4 кастрычніка 1896. Лёс пераблытаў апошнія лічбы яе гадоў — 1869-1896. Прыгожая, таленавітая, выхавала ў сыноў уменьне адчуваць мастацтва, музыку, навучыла іх думаць. Падаравала ім радзіму. Бяз долі.

Яе магілка ў Гародні была недагледжанай. У 1987 годзе студэнты Менскага педінстытута частку заробленых на раскопе замку грошай пералічылі ў фонд культуры на надмагільле Маці Паэта. Помнік пачалі ставіць яшчэ праз два гады. Ды ён ня ўпісваўся ў архітэктуру старых магілкаў. Цяпер усё пачынаюць нанова...

Дзяды па бацьку родам зь вёскі Халопенічы на Барысаўшчыне.

( Працяг на стар. 4 )




### АДРАДЖЭННЕ

(1)

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Адраджэнне Беларусі становіцца фактам. Аднак поўнае пранікненне духа беларускага гонару ва ўсе сферы нацыянальнага побыту вымагае яшчэ вельмі доўгага часу. Здаецца мне, што поўны росквіт нацыянальнага рэнесансу, мабыць, немагчымы пры сённяшніх ужо спелых пакаленнях беларусаў. Аж па шпік у касцях пранікла ў іх істоту расейшчына і засела там, мабыць, навекі. Я толькі што вярнуўся з Гародні, дзе як член афіцыйнай дэлегацыі прымаў удзел у Днях культуры Беласточчыны на Гродзеншчыне і яшчэ раз пераканаўся, што нават у гэтым заходнебеларускім горадзе расейшчына заваявала моцныя пазіцыі і нават не думае, каб іх пакідаць. Ідучы па вуліцы, звярнуўся я да нейкага прахожага, пытаючы яго па-беларуску, як прайсці да гасцініцы „Гродна". Прахожы аказаўся моцна падпітым. Са злараднасцю і нянавісцю ён заявіў: „Да, телевидение вы у нас отнимаете, но улицу вы у нас не отнимете. Она останется русской!" На жаль, не ведаю, ці быў гэта па нацыянальнасці рускі ці беларус. Бяда, аднак, у тым, што ў такі спосаб думаюць амаль усе гарадзенцы. Расейшчына з'яўляецца амаль адзінай мовай на вуліцах горада. Час ад часу чуецца мову польскую, аднак па выглядзе людзей відаць, што тыя, хто ёю паслугоўваюцца, прыехалі з Польшчы. Давялося мне быць у мясцовым прыгожым тэатры на канцэрце сімфанічнага аркестра з Беластока. Думаецца мне, што прыйшлі на канцэрт перш за ўсё палякі і таму мне здавалася, што ў час перапынку пачую, галоўным чынам, польскую мову. Так аднак не было. Практычна ўсе „чирикали" па-руску. Значыць, слабыя ў сэнсе нацыянальнага духа не толькі беларусы. Палякі на Гродзеншчыне таксама паддаліся русіфікатарскім працэсам.

І ўсё ж такі, не пакідае мяне надзея на беларускае адраджэнне. І звязваю я гэту надзею з вельмі павольна і непаслядоўна рэалізаванымі пастановамі Вярхоўнага Савета аб беларускай мове як дзяржаўнай і аб незалежнасці Беларусі. І нельга сказаць, што нічога не змянілася ў параўнанні з тым, што было. Змены ёсць, хаця і маюць вельмі абмежаваны характар. Пакуль што беларуская мова прарвалася ў тры першыя сферы беларускага жыцця. Ёсць яе намнога болей, чым было ў радыё і тэлебачанні, у часе розных урачыстасцей (асабліва ў іх мастацкіх частках) і ў школах. Думаю, што школы ў працэсе беларусізацыі найважнейшыя. Калі яшчэ год-два таму назад бацькі ў штыкі сустракалі ідэю ўвядзення беларускай мовы ў школы, дык сёння нават у Менску пагадзіліся з неабходнасцю яе ўвядзення як мовы навучання ўсіх прадметаў. Цікава і сімпатычна, што многія з іх гавораць: „Мы уже белорусский язык не изучим, но наши дети должны обучаться на родном языке". І гэта ўжо вялікі прагрэс. Праўда, і тут далёка не ўсё ў парадку. Бяда ў тым, што не хапае беларускіх падручнікаў. Ёсць бяда і другая. Праяўляецца яна ў тым, што зрусіфікаваныя настаўнікі як могуць так і перашкаджаюць у распаўсюджванні беларускай мовы ў дыдактычным працэсе. Пакуль што такі тып настаўніцтва валодае яшчэ ў Беларусі велізарнай сілай. Сказанае адносіцца перш за ўсё да гарадоў, але і ў вёсках ворагаў беларушчыны хоць адбаўляй. Кідаецца гэта ў вушы, калі слухаеш беларускае радыё або тэлебачанне. Амаль усе размоўцы, у тым і вясковыя, на беларускія пытанні журналістаў цвёрда адказваюць па-руску. Толькі невялікі працэнт стараецца гаварыць на пакалечанай беларускай мове.

АЛЕСЬ БАРСКІ

**************************************************************************************************




**Адбыліся інаўгурацыйныя пасяджэнні абодвух палат нававыбранага парламента.** Маршалкам Сейма выбраны **Веслаў Хшаноўскі** — лідэр Хрысціянска-нацыянальнага аб'яднання. Маршалкам Сената стаў праф. **Аўгуст Хелкоўскі** — фізік з Познані.

У Сейме працуе зараз 17 парламенцкіх клубаў і 10 паслоўадзіночак, якія не прыступілі да ніводнага з існуючых клубаў. Сярод іх — **Яўген Чыквін** з Выбарчага камітэта праваслаўных. У размове з журналістам „Кур'ера Падляшскага" ён сказаў: „Я прадстаўляю ў Сейме некалькі нацыянальных меншасцяў: беларусаў, літоўцаў, украінцаў. Мяне пасадзілі з правага боку, але за гэта я не маю прэтэнзій. Гульні, якія зараз праводзяцца, мяне не здзіўляюць, бо ў мяне даволі багаты вопыт. Я ўжо трэці раз выбраны паслом у Сейм".

**Польшча стала членам Рады Еўропы.** Дакумент аб уваходзе ў Раду падпісаў у Страсбургу міністр замежных спраў **Кшыштоф Скубішэўскі**. Польшча з'яўляецца 26 краінай-удзельніцай Рады. Па ініцыятыве Рады Еўропы Польшча ад лістапада 1990 года прымала ўдзел у яе працах, але не мела рашаючага голасу. Толькі пасля свабодных парламенцкіх выбараў адкрылася магчымасць атрымаць поўныя правы.

**Генеральны консул Рэчыпаспалітай Польскай у Менску прафесар Альжбета Смулкова** ад імя прэзідэнта краіны ўручыла групе беларускіх грамадзян ордэны „За ўдзел у Абарончай вайне 1939 г."

**Беластоцкая фірма „Мальтэкс" заключыла з прадстаўнікамі Беларусі і Грузіі дагавор на бартэрны абмен звыш 5,5 мільёнаў тон збожжа на мінеральныя ўгнаенні, дрэва і каляровыя металы. Вартасць гандлёвай здзелкі ацэньваецца на 300 мільёнаў долараў.**

**Кантрольна-прапускны пункт у Агародніках** (Сувальскае ваяводства) з 27 лістапада даступны грамадзянам усіх краін як для пасажырскага, так і для таварнага руху.

У серыі „Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" выйшла з друку мемуарная кніжка **Георгія Валкавыцкага „Віры"**.

**II Сустрэчы з культурай пагранічча**, арганізаваныя Ваяводскім цэнтрам анімацыі культуры ў Беластоку, праходзілі пад лозунгам „Польшча і Украіна на сутыкненні культур і народаў". Апрача ўкраінскага ў праграме былі таксама цыганскі, татарскі і беларускі вечары.

## Аўтарскі вечар С. Яновіча ў Менску

29 кастрычніка г.г. у менскім Доме літаратара адбыўся аўтарскі вечар Сакрата Яновіча. Літаратурная творчасць Яновіча вядомая ў Беларусі, перш за ўсё, дзякуючы зборніку „Сярэбраны яздок", які быў выдадзены яшчэ ў сямідзесятыя гады. Толькі цяпер выдавецтва „Мастацкая літаратура" рыхтуе ў друк даволі багатую падборку творчасці беластоцкага пісьменніка. Але Яновіча ведаюць у Менску найлепш тыя, хто чытаюць „Ніву". А такіх, відаць, ужо не так і мала, гледзячы на тое, што вялікая аўдыторыя ў будынку Саюза пісьменнікаў была набіта публікай.

Вечар вёў вядомы пісьменнік Янка Брыль. Пасля ўрачыстага і даволі нуднага пачатку, голас далі Сакрату Яновічу, які праз паўтары гадзіны забаўляў публіку дасканалым чытаннем сваіх твораў і вясёлымі анекдотамі. Дзякуючы пачуццю гумару, удалося Сакрату адказаць таксама паспяхова на ўсе пытанні публікі. Толькі невялікая іх частка датычыла непасрэдна літаратуры. Як аказалася, менская інтэлігенцыя вельмі цікавіцца лёсам беларускай меншасці на Беласточчыне і Сакрат Яновіч выступаў крыху як наш пасол. Вялікую радасць у зале выклікала вестка пра выбар кандыдата беларусаў у Сейм РП, якую прынесла польскі консул у Менску прафесар Альжбета Смулкова. Усе віншавалі Сакрата Яновіча, а затым і ўсіх беларусаў Беласточчыны. Расчараванне, як вядома, прыйшло пазней, але тут ужо віны Яновіча няма. Вінаваціць можна ано польскую дыпламатыю за мала дакладныя інфармацыі, ну і можа крыху беларускую меншасць у Польшчы.

В.С.

### НОВАЯ КНІЖКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

На днях выйшла з друку кніжка Віктара Шведа „Вясёлка" з ілюстрацыямі Уладзіслава Петрука. У зборніку — разнародныя па зместу і форме вершы для дзяцей, напісаныя на працягу многіх гадоў. Кніжку выдала ГП БГКТ тыражом 5000 экземпляраў. Цана 15000 зл.

### У ГОНАР БАГДАНОВІЧА

Гадавіну Максіма Багдановіча адзначаюць польскія літаратурныя часопісы. У верасnёўскім нумары варшаўскага месячніка „Twórczość" надрукавана яго апавяданне „Апокрыф" у перакладзе Земавіта Фэдэцкага і Адама Паморскага.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"





## ПАДЗЯКА

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне шчыра дзякуе ўсім сваім прыхільнікам, якія ахвярна дапамагалі Беларускаму выбарчаму камітэту ў яго(н)ай кампаніі, а таксама ўсім выбаршчыкам, якія аддалі свае галасы на спісак нашых кандыдатаў ва ўсіх акругах у Польшчы.

Мы пераканаhistы, што ў кастрычніцкіх выбарах галасавалі на кандыдатаў нашага камітэта выключна свядомыя сваёй нацыянальнай тоеснасці дзейныя беларусы.

Гэта дазваляе нам быць упэўненымі, што нягледзячы на вынік выбараў, усё-такі існуе грамадскі патэнцыял дзеля рэалізацыі любой беларускай ідэі.

Карыстаючыся нагодаю жадаем нашым выбаршчыкам і ўсім беларусам поспеху ў жыцці і здзяйснення нашых супольных памкненняў.

Беласток, 7.XI.1991г.

Галоўная Рада
і Краёвая ўправа БДА

# ПРА СУПРАЦОЎНІЦТВА

( Працяг са стар. 1 )

гэтай справай да нашых урадаў. Вам шмат у чым трэба будзе дапамагаць, музей трэба закончыць і абсталяваць.

**Сяргей Габрусевіч**, прарэктар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта лічыць, што на Беларусі ствараюцца добрыя магчымасці, каб супрацоўнічаць і дапамагаць часткі беларускага народу на Беласточчыне.

— Усходняя Беласточчына — гэта унікальны культурна край, і многа чалавецтва згубіць, калі гэта прападзе. Тут захаваліся унікальная мова, абраднасць. Можа і мы яе будзем укараняць у сябе, у нас шмат з гэтага ўжо прапала, — кажа С. Габрусевіч. — Калі ёсць толькі адна культура, гэта пагражае і дзяржаве, і асобе. Калі мноства культур, то ніякай пагрозы дзяржаве няма, ні беларускай, ні польскай. Я, як старшыня Беларускага фонду культуры і прарэктар універсітэта таксама клапачуся і аб польскай культуры на Гродзеншчыне; у нас адкрыта кафедра польскай філалогіі, і ведаю ад рэктара беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта, што з кастрычніка 1992 года будзе ў Беластоку беларуская філалогія. Справа ў тым, каб мы клапатліва, па-гаспадарску, дапамагалі ўсім так, каб паляку ў Беларусі без усякай боязі ганарыцца сваімі традыцыямі, сваім ладам жыцця, калі ён хоча ганарыцца, а каб беларус у Польшчы адчуваў сябе, што ён не горшы за нікога. Вам не трэба гэтага даказваць, але ў нас ёсць такія, якім трэба. Вось **Віктар Кавалеўскі**, дырэктар саўгаса ў Ракаве, выдатны прыклад таго, што ёсць у нас гаспадарлівыя людзі, багатыя калгасы.

Шмат у чым можам вам дапамагчы. Вось ужо другі год бярэм вашых студэнтаў. Хочам прывезці мармур для абліцоўкі ўваходу і галоўнага хола ў музеі, але трэба дамовіцца з урадам Польшчы ў справе пошліны за ўвоз, бо трудна пераказваць ахвяраванні людзей на такі падатак. Паколькі мы пераходзім да рынкавых умоў жыцця, нам трэба гэты новыя ўмовы выкарыстаць так, каб мець магчымасць больш, і матэрыяльна і духоўна, дапамагаць беларускай культуры, беларускасці ў Польшчы, каб захоўваць яе і развіваць. Чаму б нам не стварыць сумеснае прадпрыемства? Частка прыбытку магла б ісці на фінансаванне БГКТ. Трэба арганізаваць суполкі, якія маглі б гандляваць паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай. Не ўсё мы маглі рабіць учора, але ўрады Польшчы і Беларусі дамовіліся наконт абмену людзьмі і таварамі.

Трэба нашы пытанні ставіць на дзяржаўным узроўні. Трэба адкрыць у Беластоку беларускае консульства, у Гародні — польскае. Рэспубліка Беларусь, сярэдняя еўрапейская дзяржава, павінна дапамагаць беларусам на Беласточчыне. 8 снежня ў нас будзе Аляксандр Баршчэўскі, і пастараемся арганізаваць яму аўдыенцыю ці ў Кебіча, ці ў яго намесніка, ці ў Шушкевіча. У Беларусі мала знаюць пра беларусаў Беласточчыны. Трэба арганізаваць сустрэчы прадстаўнікоў БГКТ у нашым тэлебачанні, радыё, друку. Ї трэба перадумаць новыя формы супрацоўніцтва, новыя напрамкі.

**Янка Зенюк** звярнуў увагу на асветныя справы, якіх мы на Беласточчыне самі не вырашым. Патрэбны нам спецыялісты па праграме навучання, літаратура, падручнікі. Прапанаваў ён беларускаму Міністэрству народнай адукацыі, каб з кожнага выдання 600 паасобнікаў пераказваць беларусам Беласточчыны. Палякі шмат пераказваюць суродзічам на Беларусі — і кніжкі, і запісы, і фільмы. Ї вельмі важнае — удасканальванне настаўнікаў. У гэтым годзе не арганізавана курсаў у Менску для настаўнікаў беларускай мовы. Стварыць трэба магчымасці кантактаў навукоўцаў і навуковых асяродкаў для распрацоўкі праблем істотных для нашага асяроддзя.

**Канстанцін Майсеня** падзякаваў



*Злева: Віктар Кавалеўскі, Мікалай Васілёнак, Янка Сычэўскі і Сяргей Габрусевіч.*

усім установам, прадпрыемствам і калгасам з Беларусі, якія перадалі беларускаму музею шмат неабходных рэчаў, будаўнічых матэрыялаў і абсталявання. Беларусь дапамагла ў пабудове дагэтуль у 30 працэнтах. Мікалай Васілёнак з „Радзімы" чалавек вельмі салідны, шмат асабістае працы ўлажыў у арганізацыю дапамогі. Кастусь Майсеня, які аддаў свае бясплатныя працы для музея больш чым на 120 мільёнаў злотых, заклікаў усіх, хто яшчэ толькі прыглядаецца збоку стараниям свядомых беларусаў-будаўнікоў музея ўключыцца ў справу. Складчына сяброў камітэта пабудовы музея — 60 тысяч у год. Можна дапамагаць і матэрыяламі, і транспартам, збіраць экспанаты, якіх яшчэ многа ў нашых вёсках і мястэчках.

— Каб закончыць пабудову музея, не хапае яшчэ 10 мільярдаў злотых (па сённяшніх цэнах). Калі б кожная сям'я на Беласточчыне ўплаціла 60-100 тысяч, хапіла б завяршыць пабудову трэцяга будынка музея.

**МІРА ЛУКША**
**Фота А. Максімюка**

***************************************************************************************

# МАЯ ВЫБАРЧАЯ ПРЫГОДА

— Як яно пачалося, сам найлепш ведаеш! — пачаў сваю выбарчую аповесць Пятро Прышчэпка.

Так, ведаю. Пасля ўтомнага збірання подпісаў у падтрымку Беларускага выбарчага камітэта трэба было яшчэ сабраць адпаведную колькасць кандыдатаў. У нядзелю 1-га верасня Камітэт распрацоўваў гэтае пытанне. Спіс кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта ў беластоцка-сувальскай акрузе быў як след дапрацаваны загадзя. Заставалася яшчэ насадзіць сваімі кандыдатамі шэсць іншых выбарчых акруг, пра якія мы ведалі альбо толькі падазравалі, што жывуць у іх беларусы, хаця б і ў канфесійнай форме існавання. Мяне вызначылі адказным за рэгістрацыю спісу ў гданьскай выбарчай акрузе. Паедзеш у Гданьск, казалі мне, а кандыдаты там ужо будуць. Рэгістрацыя — усяго фармальнасць. А чаму б нам не паставіць там, побач з мясцовымі гданьскімі кандыдатамі, чалавека з Беласточчыны — нехта запытаў. Я падумаў пра Пятра Прышчэпку, з якім ужо ад нейкага часу падтрымліваў лучнасць. Ужо праз паўгадзіны надпісаў ён заяву аб згодзе на кандыдаванне са спісу БВК. 2-га верасня ў сядзібе Акруговай выбарчай камісіі ў Гданьску я прадставіў сваё паўнамоцтва ды ўсе іншыя неабходныя дакументы — Беларускі выбарчы камітэт заіснаваў на гданьскай палітычнай сцэне.

— Выбарчую кампанію, — цягнуў Пятро Прышчэпка, — вёў я за свой кошт. У пятніцу 18 кастрычніка выехаў я ў Гданьск. Узяў я з сабою плакаты ды выбарчыя лістоўкі, якія раней надрукаваў у Беластоку. Калі толькі ўехаў на абшар ваяводства, дык пачаў іх развешваць, дзе толькі магчыма. У Гданьску адведаў я ўсіх сваіх знаёмых і родных, якіх стараўся ўключыць у сваю выбарчую акцыю. На другі дзень наведаў я гданьскі гуртоk БГКТ, дзе даведаўся, што ніхто з мясцовых кандыдатаў не скарыстаў з таго часу, які быў нам дадзены ў радыё і тэлебачанні дзеля выбарчай кампаніі. Пасля сустрэчы ў БГКТ вырушыў я па-за Гданьск, дзе ведаў, што сустрэну яшчэ сваіх знаёмых. Ї так, у Вейхярове знайшоў я аднаго добрага свайго калегу, які арганізаваў мне сустрэчу з жыхарамі Хачэва — там жывуць перасяленцы з маіх родных мясцін, з Заходняй Беларусі. Яны яшчэ не забыліся свае мовы. У Вейхярове ў арганізацыі сустрэчы дапамагла мне адна настаўніца — на спатканне яна спрасіла перш за ўсё сваё асяроддзе, у выніку чаго гутарылі мы пра спосабы фінансавання школьніцтва і культуры. Акрамя дзвюх сустрэч з'ездзіў я гэтага дня ўсё ваяводства. На вечар вярнуўся ў Гданьск, бо ў нядзелю раніцай хацеў адведаць царкву.

Пад царквою быў я ўжо а восьмай. Тут жа даведаўся, што літургія пачынаецца а дзесятай. Заставалася шмат часу. Узяў за клямку — дзверы адчыніліся, а там... бачу айцец Аляксандр, святар, які раней служыў у маім прыходзе. Увесь час, што заставаўся да літургіі, правялі мы за размовай — я выясніў, з якою справай прыехаў. Айцец Аляксандр у час пропаведзі звярнуўся да вернікаў з заклікам, каб аддалі яны свае галасы на беларускіх кандыдатаў. Пасля службы, дзякуючы зычлівасці святара, адбылася яшчэ сустрэча, пад час якой я расказваў пра сябе і пра сваю працу. Тады менавіта даведаўся, што а 14-ай адбудзецца ў царкве вянец. Падумалася мне, што і з гэтай нагоды трэба скарыстаць. Пасля шлюбу пайшоў я да вясельных гасцей, але тут я не перастала ўжо мне шанцаваць. Аказалася, што госці ў бальшыні з ... Беласточчыны. Гэтак закончылася ў нядзелю мая выбарчая акцыя.




У панядзелак быў я дамоўлены на сустрэчу ў Паморска-кашубскім згуртаванні. Пра кашубскую зычлівасць да беларусаў ведаў я раней. Сустрэча атрымалася надзвычай сімпатычнай — кашубы цэлым сэрцам падтрымліваюць беларусаў, толькі, што сваіх кандыдатаў было ў іх пад дваццаць. Ніякай падтрымкі я ў іх не дабіўся. Пасля гэтай апошняй маёй выбарчай сустрэчы ў Гданьскім ваяводстве вяртаўся я на Беласточчыну. Па дарозе развешваў свае плакаты, якіх крыху ў мяне яшчэ засталося.

Выбары прайшлі, а іх вынік непамерны з працай, якую трэба было ўлажыць ва ўсю выбарчую кампанію. Беларусы чарговы ўжо раз не здабылі месца ў парламенце. Не лічу памылкай, — закончыў Пятро Прышчэпка, — што кандыдаваў я з беларускага спісу. Беларуская ідэя, раней ці пазней — пераможа.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**




## МАЮ СПРАВУ ДА АЎРОРЫ

Маю справу да Аўроры. Мілая Аўрора! Колькі ж ты гэта гадоў ужо ў „Ніву" пішаш? Мо з дзесяць, калі не больш. Памятаю, калі ты толькі пачынала, пісала пра самыя разнастайныя справы, якія акружалі цябе. Я нават дзівілася, як такая маладая жанчына, якая сядзіць на вёсцы і выхоўвае ў хаце малых дзетак, можа быць настолькі назіральнай — так шмат бачыць, што дзеецца навокал. Думала: глянь ты, не кожны ж нават журналіст патрапіць так усё рэгістраваць. А што датычыцца тваёй мовы, дык яна ў цябе адразу была добрая, літаратурная, не вымагала ў рэдакцыі вялікай праўкі.

Ты выклікала спачуванне, калі пісала пра сваё сямейнае жыццё — фактычна жыццё катаржніцы, якую муж біў і панявераў да такой ступені, што нават свае заметкі ў „Ніву" ты мусіла пісаць, хаваючыся, каб хаця не ўбачыў ён.

Было радасна, калі ты пісала, што нарэшце вызвалілася ад яго і стала на працу ў бальніцы. Тэмаў у цябе прыбыло. Ты пачала пісаць пра людзей, якія праходзілі праз ваша аддзяленне. Былі гэта наогул людзі нешчаслівыя — з рознымі, пакручанымі лёсамі. Але гэта і ясна: шчаслівыя людзі рэдка дзеляцца сваім шчасцем. Нешчаслівыя — расказваюць людзям аб сваім горы, несвядома разлічваючы не толькі на спачуванне, але і дапамогу. Можа ім ад гэтага лягчэй.

Перыпетыі людскіх лёсаў заўсёды цікавяць чытача.

Але, Аўрорка, тое, што ты задэманстравала ў нумары 44(185)„Нівы", выклікала ў мяне па меншай меры здзіўленне. Няўжо ў цябе ўжо больш праўдзівых тэмаў няма? Ну, каб ты была яшчэ напісала, што чула, як людзі расказвалі, быццам хтосьці ў цягніку пачаў вытрасаць запэцканыя мукою штаны аднаго пасажыра за вакном і згубіў іх, то яшчэ можна было б табе даравачь. А ты пішаш, што ты была сведкам гэтага здарэння.

Мілая мая! Я гэты анекдот ужо 15 гадоў таму назад чула. Яшчэ жывы быў мой бацька, які ўжо 10 гадоў ляжыць у зямлі. Вядома, анекдоты дзеля таго — каб іх паўтараць. Але не выдаваць іх за свае. Усё мусіць мець рукі і ногі.

**В. ЖЭШКА**

## ПАПРАЎКА

У артыкуле Янкі Жамойціна „Наша спатканне з прэм'ерам Рэспублікі Беларусь", змешчаным у 45 нумары „Нівы" ад 10 лістапада г.г., былі дапушчаны дзве памылкі. Візіт дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у Польшчу быў нанесены 10-11 **кастрычніка** г.г., а сярод членаў беларускай дэлегацыі быў Уладзімір **Радкевіч** — старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях.

У чытачоў і зацікаўленых асоб просім прабачэння.

## Свойскія малюнкі



**Беласток.**
Вул. І. Бялуўны.
*Мал. У. Петрука*

****************************************************************

**Піражкі з макам**

## НА КАГО ГАЛАСАВАЛІ

Пасля выбарчай ліхаманкі, у якой няслаўна палегла адборная дружына Піражкевічаў, Макотра вяртаецца на кругі свае. Толькі Стахрэнюк у прыступе настальгіі не можа забыць дазіраванага (40-хвіліннага) гарцавання ў блакітным эфіры.

- Мы самі з вусамі! — пераконвалі тэлеразявакаў круглатварыкі з антыбацькоўскага супраціўлення. Выстаўлялі свае балячкі барадатыя ветэраны нязбыўнай мары. Здавалася, запаветнае крэсла (6 мільёнаў у месяц!) так блізка. Ды выбілі скарб з-пад азадка бязлітасныя левабярэжцы (1:60) і крывадушныя шаманаўцы (1:13).

Наш няўдачнік вінаваціць Макотру (недаразвітасць), дружыннікаў (эгаісты) і Зялёнае Сонейка (падазрае, што Алеська галасаваў супроць яго). І абяцае на другі раз склешчыцца з яснапалійскімі незалежнымі канфедэратамі.

— Нацыянал з нацыяналамі заўсёды дамовіцца! — заявіў з уласцівай яму самаўпэўненасцю.

— „Vae victis", гаварылі рымляне, –мовіў пан Мацюк і пераклаў: гора пераможаным. А Пірог-Дацэнтовіч дадаў: — Кожны хоча быць героем, ды гэтае імкненне часта заводзіць у блазны.

Прысутныя не скемілі: сказана іранічна ці павучальна.

Арыгінальна тлумачыць выбарчае паражэнне макотранскіх камітэтчыкаў Сорак Мазгоў. Даказвае ён, што прабіўную сілу нашым змагарам адняло чарнобыльскае праменяванне.

Як не дзіўна, але падобную ідэю падкінулі нам нядаўна і недапечаныя лідэры белапірагійскіх „незалежнікаў". Прыехалі яны ў Беласток вучыцца ў „Салідарнасці". Асвоіўшы штаб-кватэру настаўнікаў, накланяўшыся ўдосталь на каленях, ахвяры развітога застою хутка набылі здзіўляючую хрыбетную пругкасць і пачалі сарамаціць макотранцаў:

— На каго галасавалі! Левабярэжцы — чарнобыльская сатана! Эх, позна прыехалі! Мы б паказалі...

Як кажа крыніцкі электрык, прачнуўся бальшавіцкі дух. Не паспелі глытнуць „салідарыцкіх" ведаў, а ўжо павучаюць. А што з суверэнітэтам Яснаполіі, спадарыкі Мухін і Шарпаў? Жыве Макотра!

**СІДАР МАКАЦЁР**

****************************************************************

# ЁН ІГРАЕ НА БЭМОЛЯХ

**( Працяг са стар. 1 )**

Прадзед Лук'ян, прыгонны садоўнік, ажаніўся з Арынай Юневіч у 1832 г. Яго старэйшыя дзеці — Юры, Сямён, Магдалена, Амяльян — запісаны на прозьвішча Скокліч, малодшыя — Аксеня (1849) і Ганна (1857) — на прозьвішча Багдановіч. Я ня ведаю, у чым тут справа. У 1860 Юры ажаніўся з Анэляй Осьмак, маці якой была вясковай чараўніцай, лекаркай, ведала шмат паданьняў і казак. Пасьля сьмерці Анэлі ў 1880 Юры ажаніўся другі раз, пражыў 70 гадоў і памёр у 1904. Ды гэтыя падзеі ня маюць дачыненьня да лёсу паэта.

Адам Ягоравіч Багдановіч (20.3.1862 — 16.4.1940) скончыў сэмінарыю ў Нясьвіжы, з-за тубэркулёзу вымушаны быў зьмяніць прафэсію настаўніка на служачага. Шмат пісаў, але ня шмат надрукаваў. Сёстры яго — Магдалена і Марыя вандравалі зь ім па расейскіх гарадах, дапамагалі выхоўваць хлопцаў Марыі Апанасаўны. Сёстры Марыі, наадварот, нібыта ня мелі доступу да сіротаў.

Марыя Ягораўна Багдановіч (1872-1931) прыехала ў Гародню, калі захварэла Марыя Апанасаўна. Замяніла сіротам маці з 1896 па 99 г., пакуль бацька не ажаніўся з Аляксандрай Волжынай, якая памерла пасьля родаў хлопчыка. З Аляксандрай Апанасаўнай Мякота ў Адама было пяцёра сыноў: Павел (1901-1968), Мікалай (1903-1965), Аляксей (1905-1932), Вячаслаў (4.5.1908-24.5.1940), заўважце, памёр у наступным месяцы пасьля бацькі. Раман памёр у чатырохгадовым узросце ад запаленьня лёгкіх у 1917 годзе.

Паэты заўсёды бываюць белымі варонамі ў сваім асяродзьдзі. Максім да таго ж пісаў на мове, якой у сям'і не карысталіся. Павел і бацька заўважалі ў лістах, што ачысьцілі куток ад Максімавых чарнавікоў, лічачы, што гэта непатрэбныя паперы. Паважаць яго пачалі тады, калі ў Беларусі ён стаў вялікім паэтам.

Дзяўчаты і жанчыны апекаваліся Максімам, замяняючы яму маці, а пасьля адзіную каханую, якой у яго таксама ня было. Аня Какуева і ее маленькая пляменьніца Роначка, імёнем якой назваў паэт паэму „Вэраніка". Клара Кіціцына, пра якую Максім пакінуў самы інтымны запіс у дзёньніку. Стрыечная сястра Нюта Гапановіч, якой прысьвяціў рукапісны зборнік-сшытак „Зеленя", самапераклад на рускую мову. Завочна перапісваўся з дачкой Ядвігіна Ш. Вандай Лявіцкай. У Ракуцёўшчыне ім апекавалася сястра Івана і Антона Луцкевічаў Эміля, зь яе маленькай дачушкай Яняй паэт гуляў па вясковых сьцяжынках. Яня жыве ў Ню-Ёрку, гэта бабуля беларускага сьпевака Данчыка. У Менску апекаваліся Максімам сёстры Зьмітрака Бядулі ды Зоська Верас, тады яна яшчэ была толькі Людвікай Сівіцкай. Гэта Максім намовіў Зосьцы заняцца дзіцячай літаратурай, недахоп якое адчуваўся, яны ж апекаваліся дзіцячым прытулкам у Карпілаўцы.

Уражаньне пра Максіма Паўліны Мядзёлкі: ён быў бледны, непрыгожы, кашляў, харкаўся, пацеў. Уражаньне Людвікі Антонаўны Сівіцкай: быў незвычайна прыгожы; высокі — мэтар дзевяноста сантымэтраў, блакітныя вочы і каштанавыя валасы ўпрыгожвалі яго бледны твар. Калі кашляў, стараўся адыйсьціся ад людзей убок, пот выціраў бялюткімі насоўкамі.

„Сягоньня я пачую словы мая нешчаслівая дзевачка, і думаю ўвесь вечар аб гэтым, але жывём мы, як чужыя людзі, і ні да чога дадумацца няможна" — такую „карталюшачку" Людвіка Антонаўна захавала ўсё жыцьцё. У музэі ёсьць кніжкі з бібліятэкі Людвікі Антонаўны. Вось часопіс „Заранка", у якім зьмешчана паэмка Максіма „Мушка зелянушка і камарык насаты тварык". Да таго ж на гэтым часопісе стаіць штамп „доктар І. Геніюш". Відочна, некалі быў уласнасьцю паэткі Ларысы Геніюш. І „Вянок" 1913 году ў цьвёрдым пераплёце з аўтографам Ларысы Геніюш. Ён доўга вандраваў пасьля сьмерці паэткі, пакуль ня трапіў у музэй... „Вянок" з аўтографамі бацькі паэта, Ані Валасовіч-Гразновай і Янкі Брыля належаў некалі Ані. Яна ў канцы свайго жыцьця ліставалася са многімі літаратарамі, прыязджала ў Гародню ў 1965 годзе, калі адчынялі мэмарыяльную дошку на доме па вуліцы М. Багдановіча н-р 1. Памерла ў 1975, дачка яе Натальля памерла ў 1982. Цяпер жыве Аніна ўнучка, яна прадаўжае ліставаньне і сяброўства зь літаратаркамі зь Беларусі.

# Їх папараць-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

### 28. ЯК МЫ РЫХТАВАЛІСЯ ДА „ПАРТЫ".

Столькі гасцей з Беларусі наехала! Галя Прыма аж млее: „Верачка! Зрабі штонебудзь!"

Нічога не папішаш — трэба рыхтаваць прыём. Ну, што ж, сям'і Бартулёў гэта не навіна. А хата не малая — месца ўсім хопіць. Спадарыня Вера адразу пачала складаць спіс сяброў, якіх у першай версіі назбіралася, здаецца, 34 асобы — а ўсё госці і блізкія знаёмыя, якіх проста неабходна было запрасіць.

— Можа ты зварыш нешта сваё?! — далікатна папрасіла мяне Вера. Што датычыць гатавання, дык мяне доўга прасіць не трэба. Адразу прыкінула я ў галаве, што раблю на такія аказіі дома, ды і што заўсёды выходзіць. Выбрала пяць рэгіянальных страў, вельмі папулярных на Беласточчыне: бігос з капусты, селядзец з марынаванымі грыбамі, карп заліўны ці фаршыраваны, маянэзную салату з гародніны і паштэт з цяляціны. А індыка і шынку, падумала я, няхай Вера пячэ сама.

Калі я напісала на паперы спісачак патрэбных прадуктаў, нават у галаву мне не прыйшло, што з гэтакім меню, усё ж даволі скромным, мае мілыя гаспадары будуць мець аж столькі клопатаў, у такой дастатняй краіне, як Амерыка! А тут...

— Карпа? — перапытала Вера. — Жывога?.. А ў нас жывой рыбы ў продажы няма. Тым больш прэснаводнай...

Ну, і давялося замест карпа зрабіць рыбу па-грэцку, калі ўжо мела быць марская (Францішак прынёс нейкую занадта смачную, ласасяватую рыбу, якую я, падсмажыўшы, з боллю ў сэрцы ўкінула ў таматны соус з тушанай гароднінай).

Пачалі шукаць (як я і прасіла) добрыя селядцы. Шукалі доўга — нарэшце купілі ў нейкага яўрэя селядцы ў салодкім марынадзе. Праўда, былі вялікія і, на вока, прыгожыя. „Божа! Што я з імі зраблю? Яны ж салодкія нейкія!" — падумала я, але ўрэшце супакоіла сябе, што, калі дадам марынаваных грыбкоў — будзе панашаму.

Купіла Вера марынаваныя пячурыцы, а яны ізноў маюць той жа саладкаваты смак селядцоў. Што рабіць? Давай я змяняць марынад. Так грыбы стаялі два дні, набіраючы „нашага", больш вострага, ляснога паху.

Бадай, найбольшую свінню я падлажыла гаспадарам, уводзячы ў меню „парты" паштэт з цяляціны. Прабачце, дарагія! Я ж яшчэ тады не ведала, што цяляціна ў Амерыцы ў дзесяць (!) разоў даражэйшая за кураня ці індыка, а можа і за шынку. У нас жа — найдаражэйшая і найкаханейшая — заўсёды свініна. Але дарагую цяляціну і пячонку гаспадары купілі ў магазіне маментальна. Горш было з бачком! Звычайным свіным бачком. Не ядуць! Ледзь Верачка знайшла дзесьці вэнджаны бачок, адразу тоненька парэзаны дзеля бутэрбродаў. Бачок быў патрэбны для паштэту і бігосу, і я ўжо пачала нервавацца, што будзе неўласцівы смак.

Ну, неяк выйшла. Ды толькі вось галкі мушкаталовай не ўжываюць. Як я ні тлумачыла Веры, што гэта мускатныя арэхі, якія ўжываюць да мясных страў, асабліва паштэтаў — нічога не выйшла. Дадалі да паштэту „кары" — індыйскай прыправы.

Што датычыць бігосу, дык выйшаў някепскі (Вера мела прывезеныя з Мінска — але рускія, не з Чарнобыля, сушаныя грыбы). Горш было з разынкамі, бо ў Верынай шафцы я знайшла толькі моцна араматызаваныя, з ванільным нейкім пахам. Кажу, што да бігосу патрэбны звычайныя. І тады Вера з'ездзіла ў „маркет" і прывезла: бежавыя, карычневыя і чорныя. Я выбрала найяснейшыя.

Было крыху клопатаў і з салатай з маянэзам. Не маюць карэнняў сэлераў — толькі лісце, але жоўтае і вельмі смачнае. Дадалі яго. Маянэз таксама быў не такі. Я дадала смятаны, падсаладзіла — і быў амаль, як наш.

Але найбольш клопатаў было з мясарубкай. Круцілі (варанае мяса на паштэт) аж утраіх. Вера трымала машынку, якая вельмі слізгалася, я ўкладала мяса, а Францішак круціў. Ух, стаміліся ўсе.

— Гэта вам аргумент для зайздроснікаў (мясарубка сапсаваная, бо на ўсё ж не хопіць!).

— Адачка, навошта яна нам! У магазіне змелюць табе любое мяса, а калі хочаш, могуць памяшаць розныя гатункі.

(Працяг будзе)

АДА ЧАЧУГА

## ЛЕПШЫЯ ДАРОГІ

Кожны год на нашых дарогах усё больш і больш аўтамашын. Усе вадзіцелі плацяць дарожны падатак і хацелі б ездзіць па гладкіх і цвёрдых дарогах. Нараўчанская гміна мае наогул добрыя дарогі. Яшчэ ў 60-ых гадах тут не было ніводнай асфальтаванай дарогі. За дваццаць апошніх гадоў важнейшыя дарогі ў гміне сталі асфальтаванымі. А вось дарожная нітка з Нараўкі цераз Альхоўку ў Масева, што ля дзяржаўнай граніцы, надалей астаецца ў большай сваёй частцы жвіроўкай. Яе разбіваюць цяжкія самаходы, якія возяць з пушчы дрэва на гайнаўскія прадпрыемствы. Таму дарогу часта трэба раўнаваць, а машына „раўнярка" дорага каштуе.

Гмінныя ўлады вырашылі кожны год заліваць асфальтам кіламетр дарогі. За апошнія тры гады паліта асфальтам больш трох кіламетраў дарогі. Жыхары Альхоўкі цешацца, што ў наступным годзе асфальт прыблізіцца да іх вёскі.

Усе разумеюць, што гэта дарагая інвестыцыя. У гэтым годзе гміна за кіламетр асфальтаванай шашы заплаціла 130 млн. злотых. Варта яшчэ адзначыць, што побач з гэтай дарогай, у двух кіламетрах ад Нараўкі, знаходзіцца невялікая, але гаспадарная і згодная вёска Гушчэвіна. Год назад гушчэвінцы атрымалі з вадаправода ваду, а ў бягучым годзе паклапаціліся, каб у сваёй вёсцы заліць асфальтам вуліцу. Дзеля гэтага яны сабралі значную суму грошай. Гміна далажыла і цяпер прыемна ехаць вуліцай у Гушчэвіне.

Гушчэвінцы жывуць па-сучаснаму!

М. ВАРАНЕЦКІ

*****************************************************************************

Некалькі дзяўчат пры нагодзе прызналіся, што закаханы ў партрэт Максіма, ну, і ў ягоныя вершы, вядома. Адна якраз жыве ў Беластоку. Казала, што напісала адзіны ў жыцьці верш, прысьвечаны Максіму. Паказала той партрэт. Я вымушана была ёй сказаць праўду, што гэты юнак быў памылкова Нінай Ватацы прызнаны як Максім... Вельмі ўсхвалявалася. Сказала, што ноччу спаць ня будзе. Верша мне не паказала.

Другая наадварот запісала верш у Альбом водклікаў у музэі:

*І пяўцям анікому,*
*што ў дзявочай журбе*
*я шукаю такога,*
*каб усім — у цябе...*

Аўтар беларускага буквара А. Клышка перад фатаграфіяй Ані Какуевай задуменна мовіў, што Максім абмануў, калі напісаў „чым болі сходзіць дзён, начэй, тым імя мілае вышэй", — дрэва не расьце ад камля, праверыў у пятым класе, пасучы каровы, чытаючы запоем вершы Багдановіча...

Васількі на ганку або каля дошкі. Прыносяць іх невядомыя людзі.

Сябры паэзіі Максіма. Месца жыхарства яму выбіраў бацька. Менск, Гародня, Ніжні Ноўгарад, Яраслаў... Два месяцы ў Вільні ды Ракуцёўшчыне, бясконцыя размовы з Луцкевічамі ды з Вацлавам Ластоўскім. Пяць месяцаў у Менску сярод беларускай інтэлігенцыі. Тры месяцы ў Ялце. Самотная сьмерць 25 траўня (12 ст.ст.) 1917 году.

Параскіданы па сьвеце магілы сям'і Багдановічаў. Вадзім і Ніна пахаваны ў Ніжнім. Адам і Лёва — у Яраслаўлі. Маці — у Гародні. Максім пахаваны ў Ялце. Да стагодзьдзя з дня нараджэньня не зьмянілі надмагільля паэта, ён сьпіць пад пяцікутнаю зоркай. Ды хіба можна направіць той спрадвечны невылечны смутак, тую непапраўную крыўду? Але як жа нічога не рабіць? І ўсё ж, тут нічога рабіць ня будуць. Усё так застанецца. Максім паехаў паміраць ня ў той бок, ня ў тую краіну.

6 мая 1965 года на вуліцы М. Багдановіча на драўляным доме ўстаноўлена мэмарыяльная дошка. У 1983 дом здалі на капрамонт, дошку згубілі. Уладзімір Кіслы выразаў тэкст на драўлянай дошцы. Усе да яе прызвычаіліся.

Суседкі любяць паразмаўляць, што ў гэтым доме жыў валютны злодзей, жыў прапаршчык. Паэта не памятаюць. Ды ён жа тут і ня быў паэтам, — такі маленькі. Пасьля капрамонту кватэру плошчай 58 кв. м. аддалі пад музэй. Уладкавацца працаваць малодшым супрацоўнікам з акладам 120 рублёў мне дапамагалі Танк і Карпюк: ахвотнікаў ня было, але ж і я не падыходзіла, таму што ідыялагічныя вакансіі разьмяркоўвалі ў абкаме партыі, а я вершы пісала ды да Ларысы Геніюш езьдзіла, Быкава слухала, лічылася між настаўнікаў „неудобной".

Бедныя беларускія музэі. Сьціплыя. Наш такі самы. Падабаюцца мне музэі Рыгі. Там няма храналёгіі. Гэта — творы мастацтва.

Але душа паэта блукае між драўляных сьценаў. Тут гучыць мэлёдыя „Зоркі Вэнэры". Стары гадзіньнік адлічвае бесьсьмяроцьце. Яго слухае галоўка Максіма з гіпсу, якую Валера Янушкевіч прывёз у дарожнай кайстры, будучы студэнтам мастацкага інстытуту. „Купальскі дзядок" Ул. Кіслага амаль са столі сыпле людзям з кошыка кветкі купальнага зельля... Прывезеныя Карпюком зь Яраслаўля ад жонкі Паўла Аўгусты асабістыя рэчы паэта — шкатулка, срэбная лыжачка і настольная рамачка-паспарту для фота... Партрэт Паэта, пэндзляю Сяргея Грыневіча...

Заходзяць людзі зблізку і здалёк. Данчык быў у нашым музэі. Сьвятар Алесь Надсан доўга прыглядаўся да „Біблії" Францішка Скарыны, прыняў за арыгінал, чым мяне ўсьцешыў, бо ён працуе ў Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане, дзе арыгіналы ёсьць. Хлопец з паўднёвай рэспублікі нейк зайшоў ды кажа: „Я ведаю напамяць верш Максіма Багдановіча, паслухайце, ці правільна вымаўляю па-беларуску"...

16 мая 1986 года адчынялі экспазіцыю, пад пільным „кіраўніцтвам" КПСС і Саюза пісьменьнікаў. Чаму ў экспазіцыі няма сучаснасьці і навошта „Біблія"? На запрашэньнях горад назвалі Гародняй... Няма такога. Атрымалася, што ўсіх, каго я запрасіла на ўрачыстасьць, якраз нельга было запрашаць, бо яны экстрэмісты, пацыяналісты ды людзі зь нявысьветленым мінулым: Лявон Луцкевіч, Вячка Целеш, Мікола Канаш, Міхал Ляпеха... Леаніду Галубовічу ў СП не заплацілі камандзіровачных, ён тады быў таксама ў няласцы. Сяржуку Сокалаву-Воюшу, даведаўшыся, што ён у ліку запрошаных, самі назвалі ў Наваполацк і ня ведаю, што яны яму манілі, а мне сказалі, што яго Ніл Гілевіч ня прыме ў рафік...

Сакрат Яновіч бадай што найболей перадаў нам арыгінальных кніжак: зборнік лірыкі М. Багдановіча, выдадзены ў нямецкім горадзе Хільдэхайме ў 1949 і зборнік вершаў Багдановіча, Гаруна і Бядулі, выдадзены ў Лёндане ў 1980 годзе на беларускай і ангельскай мовах. Пры зручнай магчымасьці ён успамінае музэй у Гародні, нягледзячы на пэсымістычныя думкі аб лёсе нашае літаратуры: неяк на сустрэчы ён выказаўся, што беларуская літаратура нагадвае яму старыя могілкі, дзе зрэдку наведваюцца толькі паасобныя магілы, астатнія сталі безыменнымі, задзірванелі...

У нашым музэі ёсьць вершы і зборнікі паэта, перакладзеныя на польскую, украінскую, летувіскую, баўгарскую, чэшскую, расейскую мовы. Гэта і зьяўляецца сьведчаньнем таго, што ягоны „верш гэтак сама гаворыць беларусу, як чужынцу",.. (Антон Навіна).

Першымі крытыкамі М. Багдановіча былі Антон Навіна (Луцкевіч) ды Лявон Гмырак. Антон Навіна ў н-ры 8 „Нашае Нівы" за 1914 год апублікаваў рэцэнзію на „Вянок" М. Багдановіча пад загалоўкам „Пясьняр чыстае красы". Вельмі хочацца прывесьці цытату з гэтае рэцэнзіі:

„М. Багдановіч — сьвядомы паэта: ён ня толькі пачувае красу, — ён яе разумее. І каб пераказаць нам яе — падбірае такія словы, што папраўдзе выклікаюць у нашай душы шчыры водклік. Усё ў яго выходзіць у такіх мяккіх тонах, быццам на старых тканінах габэленах; усё сагрэта шчырым пачуцьцём ды ўсё гэта жыве, выдаецца рэальным.

М. Багдановіч умее ўсё ажывіць, ператварыўшы пасвойму. І лёгка льюцца яго вершы кунштоўнай філіграннай работы, а кожны формаю падходзіць да думкі. Думак тых — багата, і вось бачым у „Вянку" вершы такой формы, такой будовы, — часта вельмі рэдкай, — якой могуць пахваліцца толькі найбольш культурныя народы з найвышэй развітай літаратурнай мовай; здаецца, каб наш „пясьняр красы" меў толькі адну

( Працяг на стар. 6 )

# НА КУЗЬМУ І ДЗЯМ'ЯНА Ў РЫБАЛАХ

( Працяг са стар. 1 )



*Іканастас у рыбалаўскай царкве некалькі дзён перад святам.*

аб'екты патрабуюць рамонту. Патрабавала яго зноў рыбалаўская царква св. св. Кузьмы і Дзям'яна, а дакладней — іканастас у гэтай царкве. Прыхаджане падняліся на вялікі пачын, поўнасцю сфінансавалі побыт і працу шасці мастакоў з Менска, якія і абнавілі іканастас. Паспелі якраз да прыхадскога свята.



*Святары ў крэсным ходзе.*

Настаяцель рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна (крыніца ведаў аб праваслаўі на Беласточчыне, у тым і гісторыі мясцовага прыхода) кажа, што такі вялікі высілак людзей сведчыць аб тым, як важным для іх з'яўляецца вера, царкоўнае жыццё. Хаця нікому сёння не жывецца лёгка, былі сабраны немалыя грашовыя сродкі. Бацюшка Рыгор Сасна лічыць, што такія прыхадскія святы мабілізуюць усіх людзей, незалежна ад іх поглядаў. Яны, менавіта, цэментуюць невялікія мясцовыя грамадскасці. Хацелася б, каб і ў будучыні прыхадскія святы выконвалі такую ролю, а нават, каб яшчэ мацней інтэгравалі нашых людзей. Можна мець такія ці іншыя погляды, але трэба іх шанаваць і ў іншых. Трэба таксама ўмець у абліччы сапраўды важных, галоўных спраў, забываць пра свае асабістыя аспірацыі. (Гэтыя думкі выказваліся пасля нядаўніх парламенцкіх выбараў.) У гэтым усім могуць якраз дапамагчы такія прыхадскія святы, як Кузьмы і Дзям'яна ў Рыбалах — лічыць рыбалаўскі настаяцель.

„Трэба памятаць, што рэлігія, гэта паняцце настолькі глыбокае, што не можна яго параўноўваць з моваю ці нацыянальным пачуццём людзей. Якраз рэлігія мае ўсе падставы дзеля таго, каб людзей з'ядноўваць. Думаю, што праваслаўе ва ўсходняй Беласточчыне такую ролю выконвае і будзе гэта рабіць надалей" — сказаў айцец Рыгор Сасна ў нашай паслясвяточнай гутарцы.

**М. В.**

**Фота Міколы Ваўранюка**



*Рыбалаўскія пеўчыя.*



*Найсмачнейшыя цукеркі ў спадара Іванюка з Відава.*

*****************************************************************************

# ЁН ІГРАЕ НА БЭМОЛЯХ

( Працяг са стар. 5 )

мэту — паказаць, што беларуская мова можа развівацца, як мова літаратурная, дык ён гэтай мэты дайшоў.

„Вянок" — гэта праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі. Раўнаваць Багдановіча зь нікім ня будзем: не затым, што няма лепшых паэтаў, бо такія ёсьць, але затым, што ён ні да кога непадобны. Яго дума замкнёная ў сабе, жыве ў нейкім асаблівым сьвеце, у сьвеце іншае красы і шчырае паэзіі, ды толькі праз яе глядзіць на нашае жыцьцё — рэальнае, цяжкое, поўнае змаганьня і бязупыннае працы. І як у летні гарачы дзень у краштальна чыстай крынічнай вадзе асьвяжаецца наша цела, так асьвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча." Канец цытаты. Пра адрозьненьне Багдановіча ад паэтаў нашаніўскае літаратуры, якія ў сваёй бальшыні праз паэзію вырашалі ўтылітарныя адраджэнцкія праблемы, і толькі нямногія зь іх здольныя былі гарманічна злучыць ідэйныя і мастацкія элементы ў вадно цэлае, добра сказаў Ст. Станкевіч ва ўступным артыкуле да зборніка „Вянок паэтычнае спадчыны М. Багдановіча", выдадзенага ў Нью-Ёрку—Мюнхэне ў 1960 годзе. Два асобнікі гэтага зборніку пераслаў у музэй Кастусь Акула, за што асаблівае дзякуй, бо апрача дакладных тэкстаў мы маем узор паэзіі Багдановіча, выдадзенай тарашкевічаўскім правапісам.

У 1927 годзе ў выдавецтве Клецкіна ў Вільні быў перавыдадзены „Вянок" з уступным словам Антона Навіны, у якім даецца найвышэйшая ацэнка ўкладу паэта ў беларускую й сусьветную паэзію, ён называецца вялікім вучыцелем, тонкім майстрам паўтонаў, гармоніі, сусьветным клясыкам. „Ён іграе на бэмолях"...

У Інбелкульце падрыхтавалі трохтомнік творчасьці паэта, але сьвет убачылі толькі два тамы бяз эпісталярнае спадчыны, якую пасьля згубілі. Іван Замоцін напісаў да гэтага выданьня грунтоўны артыкул, у якім разглядае вытокі творчасьці паэта, накірункі тэматыкі яго паэзіі.

Пасьля доўгага перапынку ў 1940 годзе зьяўляецца кніга „Выбраныя творы" пад рэдакцыяй Ларчанкі ды Клімковіча з уступным артыкулам Ларчанкі, у якім сьцьвярджаецца, што Багдановіч усьлед за рускімі сімвалістамі зваліўся ў балота супярэчлівасьці, містыкі, непазнавальнасьці рэальнага сьвету, круціцца ў зачараваным коле, зь якога выйсьце толькі ў краіну забыту, дзе сьмерць зьяўляецца пачаткам нейкага новага жыцьця. Па Ларчанку ў Багдановіча няма арыгінальных вершаў, адны падражаньні Бальмонту ды Салагубу, але ёсьць і станоўчыя падражаньні Лермантаву, Пушкіну, Горкаму. Вершы „Пагоня" ды „хххДосі ўжо, браты, чужынцам мы служылі "... „з рэакцыйнымі момантамі нацыяналрамантыкі з'яўляюцца рэзультатам варожых уплываў на творчасьць Багдановіча."

У 1946 годзе да томіку „Выбраныя творы" напісаў уступнае слова С. Майхровіч, які спрабуе апраўдаць Багдановіча, даказвае, што ягонымі настаўнікамі былі Бялінскі ды Чарнышэўскі, сам паэт змагаўся з царскімі сатрапамі, выносячы ім сьмяротны прысуд, рыхтаваў народ да вялікіх бітваў. „Пагоню"... „анагінілі нямецка-беларускія бандыты пяра"... Як павялося друкаваць кнігі Багдановіча да ўгодкаў зь дня сьмерці, так і працягвалася. У 1957 выйшаў аднатомнік, праз дзесяць гадоў — двухтомнік і зборнічак „Маладзік", яшчэ праз дзесяць — танюткая кніжачка зь бібліятэкі выбранае лірыкі, да дзевяностагодзьдзя з дня нарадзінаў выдалі факсімільна „Вянок". Шмат розных кніг пра Багдановіча напісалі беларускія савецкія крытыкі, зь якіх я вызначыла б „Шляхі" Н. Ватацы.

Ведаю з друку, што А. Бабарэка ў часопісе „Узвышша" н-р 2 за 27 год надрукаваў такую працу „Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках", якой я ня чытала...

Пры музеі паэта працаваў дзіцячы гуртох „Вянок", зь якога вырас паэт Анатоль Брусэвіч, ён цяпер вучыцца ў восьмым класе. Створана была суполка моладзі імя М. Багдановіча, якая выдавала газэту „Рэанімова", праводзіла калядкі. З гэтае суполкі выйшаў адзін кампазытар па клясычнай гітары Валеры Жывалеўскі, быў час, што ён працаваў ноччу ў музэі, — муза Багдановіча яго натхняла. Гэта яго сын Федзя быў прадстаўлены ў беластоцкай „Зорцы" зь дзіцячымі песьнямі. Сябры гэтае суполкі ўвайшлі ў літаратуру і ў народны фронт. Рада народнага фронту таксама зьбіралася ў музэі. Асуджаная яе сябрамі пасьля выбараў — усьлед за тым, як камуністы клеілі афішы пра мяне на платах гораду, — я выйшла з рады, прызнаўшы сваю палітычную няздольнасьць і паражэньне, але мяне не зразумелі, бо тут прывыклі не

 

# КАЛІ „ЦАГЛІНКІ” ПЯЮЦЬ АД ДУШЫ...

22 лістапада бягучага года ў вёсцы Старое Ляўкова ў Нараўчанскай гміне адбылася сустрэча мясцовага аматарскага мастацкага калектыву „Цаглінкі” з прадстаўнікамі Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства: з намеснікам старшыні — Янкам Сычэўскім і сакратаром ГП — Валянцінай Ласкевіч, а таксама з сакратаром Праўлення Ваяводскага аддзела Аб'яднання Польшча — Савецкі Саюз Барбарай Чыжэўскай, войтам Нараўчанскай гміны Мікалаем Павільчам і дырэктарамі ляўкоўскай керамічнай фабрыкі Аляксандрам Бандаруком і Юркам Равінскім (ён з'яўляецца таксама старшынёю Грамадскага камітэта пабудовы святліцы).

Ляўкоўскія „Цаглінкі” вядомы на Беласточчыне. Спяваюць перш за ўсё народныя апрацаваныя песні. У вясёлым, гуллівым стылі. Выступаюць у прыгожых касцюмах, пашытых у Менску па спецыяльнаму заказу Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

„У конкурсе „Беларуская песня-91” вельмі высокім узроўнем папісаўся ўжо не новы калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова. Вельмі ж галасістыя ўсе яны, хоць спяваюць а капэла, вельмі добрая ў іх гармонія галасоў” — пісала ў „Ніве” Яніна Чэрнякевіч. Варта дадаць, што летам гэтага года ляўкоўцы выступілі, між іншым, на фестывалі беларускай песні ў беластоцкім амфітэатры.

Восенню гэтага года кіраўнік „Цаглінак” і салістка — Валянціна Грыка ды Марыя Русіновіч ездзілі ў Менск на курс для ўдзельнікаў аматарскага мастацкага руху. Яны здабывалі веды па харэаграфіі. Зараз яны ім вельмі прыдаліся. На адной з рэпетыцыяў супольна з мастацкім кіраўніком Васілём Целушэцкім абмяркоўвалі як нешта новае ўвесці ў мастацкую праграму.

У часе сустрэчы „Цаглінкі” паінфармавалі прадстаўнікоў грамадска-культурных арганізацыяў аб сваіх праблемах. Пасляхова былі вырашаны справы карыстання са святліцы, транспарту. Прадстаўнікі мясцовых улад прапанавалі В. Целушэцкаму кіраваць працай святліцы і разгарнуць культурна-асветнае жыццё ў тамашнім асяроддзі.

Валянціна Грыка закранула хвалюючую праблему: „Цаглінкі” старэюць. — Калі калектыў не будзе папаўняцца моладдзю, — сказала яна, — дык ён перастане існаваць. Зараз у ляўкоўскай школе спынілі сваю дзейнасць два вучнёўскія вакальна-музычныя калектывы. Дагэтуль вёў іх В. Целушэцкі, які зараз на пенсіі. Але, калі б было жаданне дырэктара школы, дык ён ахвотна згадзіўся б надалей працаваць з імі. Юныя ўдзельнікі харавых калектываў — гэта надзейныя кадры для „Цаглінак” у будучым.

Аб дзейнасці Аб'яднання Польшча — Савецкі Саюз расказала Б. Чыжэўская. Яна адобрыла жаданне стварыць у Ляўкове звяно Аб'яднання — клуб любіцеляў беларускай песні.

Войт гміны М. Павільч бачыць патрэбу ўсебаковай дапамогі ляўкоўскім „Цаглінкам”. Яны павінны існаваць і развівацца нягледзячы на цяжкія часы для культуры. Неабходна падтрымаць на духу таксама жаночы песенны калектыў у Нараўцы. Добра было б, каб з імі працаваў музычны інструктар ГП БГКТ.

На заканчэнне сустрэчы „Цаглінкі” праспявалі гасцям некалькі песень. Некаторыя папулярныя мелодыі спявалі ўсе прысутныя. Выконваліся таксама песні на словы мясцовага настаўніка Мікалая Варанецкага і паводле нотнага запісу В. Целушэцкага. У асенні дрымучацёмны вечар доўга звінелі мілагучныя галасы, між іншым, Надзеі Кабац, Веры Осяк, Ірыны Міpановіч, Марыі Русіновіч, Валянціны Грыка і Аляксандра Харкевіча.

Паплылі ўспаміны аб удалых паездках з канцэртамі ў другія вёскі, аб вялікай заангажаванасці „Цаглінак” пры пабудове святліцы. З гэтай мэтай хор арганізаваў танцавальныя вечарыны, даваў шматлікія канцэрты. Але... пара было расставацца. Госці сабраліся ў дарогу. Вечар праляцеў мігам. І так не хацелася развітвацца...

(яц)

## НАШЫ КАРАНІ

### XXIII. ПЁТР-МІЛАНЕГ

Як ужо гаварылася папярэдне, больш за 800 гадоў таму на самай паўночна-заходняй ускраіне беларускіх земляў, у Гарадзенскім княстве, перш за ўсё ў ягонай сталіцы, горадзе Гародні (сённяшнім Гродне) паўставалі настолькі прыгожыя і велічныя храмы і іншыя мураваныя збудаванні, што падобных да іх не было нідзе ва Усходняй Славяншчыне. Паводле археалагічных знаходак і згадак у летапісах можна меркаваць, што падзеі ў старажытнай Гародні разгортваліся гэтакім вось чынам.

Гарадзенцы, несумненна, ганарыліся сваімі дойлідамі-будаўнікамі. А госці, якія часта і густа прыбывалі зблізку і здалёк у наднёманскую сталіцу, захапляліся хараством будоўляў ды з цікаўнасцю дапытваліся:

— Хто ж гэта ў вас такую красу вычароўвае?

— А то наш Нежык са сваімі сябрамі, — з гонарам адказвалі гарадзенцы і дадавалі: — Міланегам яго завём, бо надта ж мілавідныя будоўлі ўзводзіць, ды і чалавек ён далікатны, ветлівы. А ў хрышчэнні далі яму імя Пётр.

Міланег быў радавітым гарадзенскім дойлідам. Відаць, яшчэ яго дзед служыў „гароднікам”, гэта значыць будаваў з бярвенняў, зямлі і камення моцныя крэпасці-гарады з гонкімі вежамі. Бацька ж, мабыць, са сваімі падручнымі ўзводзіў цэрквы і харомы пры панаванні княжацкай пары — Усеваладзе і Агаф'і. Праўдападобна, ад дзеда і бацькі Пётр-Міланег і пераняў таямніцы дойлідства. Вырас ён на майстра ўдумлівага, працавітага, улюбёнага ў будаванне Дамоў Божых — цэркваў.

Аднойчы старэнькаму князю гарадзенскаму Мсціславу Усеваладавічу паведамілі, што бурлівы Нёман падмывае сваімі неспакойнымі хвалямі стромкі бераг, на якім узвышалася сцяна гарадзенскай крэпасці. Князь абгледзеў небяспечнае месца і зараз жа паклікаў Пятра і загадаў яму ўзмоцніць бераг, каб сцяна не абвалілася ў Нёман.

За некалькі месяцаў кемлівы майстар са сваёй арцеллю пабудаваў такую дзівосную ні то падпору, ні то сцяну, што яна не толькі ўзмацняла крэпасць, але таксама стала месцам, з якога прасціраўся чароўны краявід на Нёман і наваколле Гародні.

Недзе каля 1195 года наведаўся ў гасціну да гарадзенскага сваяка вялікі князь кіеўскі Рурык Расціслававіч, вялікі любіцель будаўнічага майстэрства і апякун дойлідаў. Як глянуў ён на гарадзенскія велічныя цэрквы, княжацкі палац-церам і на тую наднёманскую сцяну — вочы ў яго засвяціліся ды на княжацкім чале лягла глыбокая маршчына.

— Дазволь, Мсціславе, — кажа ён князю гарадзенскаму, — твайму майстру Пятру з ягонай арцеллю ў мае ўладанні ехаць...

Як ні шкадаваў стары князь гарадзенскі, але не змог адмовіць свайму магутнаму кіеўскаму родзічу. Неўзабаве ўзначаленая майстрам арцель падалася ў далёкі Кіеў і там, на стромкім беразе Днярпа пабудавала такую ж, як у Гародні, ахоўную сцяну. Яна засцерагла муры Выдубіцкага манастыра ад абвалу ў раку. І з яе можна было любавацца красою магутнай ракі і задняпроўскай лясістай раўнінай.

Потым гарадзенскія дойліды разам з мясцовымі будаўнікамі ўзвялі храм св. Васілія ў Оўручы, св. Апосталаў у Белградзе, Пятніцкую царкву ў Чарнігаве, будавалі таксама велічныя храмы ў Паўночна-Усходняй Русі. А колькі палацаў князям паставілі яны! І ўсе іхнія пабудовы захаплялі тады і захапляюць сёння сваёй прыгажосцю і ўмногім нагадваюць, як сцвярджаюць археолагі, гарадзенскія цэрквы і палацы, усе яны родная сныя ім.

Невядома, калі памёр Пётр-Міланег, ці як ласкава звалі яго гарадзенцы — Нежык. Затое творы яго мыслі і рук — дастойныя храмы Божыя — і да сёння зачароўваюць людзей.

МІКОЛА ГАЙДУК

**************************************************

здавацца, а лезьці „ўпярод”, засьляпіўшы вочы, — я дазволіла ім зьбірацца ў музэі і далей. Расьцягнулі крыху кніг, сур'ёзна плянуючы пры гэтым адбудаваць усю Беларусь...

У музэі паэта бывае цесна і горача, але бывае халадна і пуста; я, як гаспадыня, усьлед за сваім духовым уладцам ня прымаю гульні ў адраджэньне, памятаючы, што праўда вышэй за Радзіму. Ці ж ня маю права дакляраваць гэтую ісьціну ад імя паэта, які паводле Замоціна сваё нядоўгае жыцьцё ў парадку свае нутранае маральнае дысцыпліны цалкам аддаў бацькаўшчыне, пасьвяціўшы сябе ў рыцары гэтай даме свайго юнацкага раману, толькі ёй, гэтай Мадоньне, мог як паэта маліцца і слугаваць.

„Максім Багдановіч — апостал. І ён назаўжды. Але — пакуль будзе існаваць нацыя. Калі ж зьнікне нацыя, зьнікне і Багдановіч. Чужым нацыям ён не патрэбны. Чалавецтву ён патрэбны датуль, пакуль у ім ёсьць месца нам, беларусам. Але не абы якім беларусам — цывілізаваным.” — так ацаніў Багдановіча Васіль Быкаў.

„Адно суцяшае: паэт памірае апошнім, пасьля народу, пасьля апошняга чалавека, разумеючага мову паэта”. — суцяшае гродзенскі журналіст Віктар Бараноўскі.

„Наведаў Музэй Максіма Багдановіча і слухаў зь цікавасьцю аб нашым таленавітым земляку, паэзія якога прадаўжае нязгасна жыць на берагох Нёмана”, — напісаў у кнізе водгукаў селянін зь вёскі Вострава Клімуць І...

Нібыта ніякага сьледу ў нашым сьвеце ён не пакінуў, і разам з тым так нам сьветла, так ганарова думаць, што лёс ягоны суровы закінуў будучага паэта сюды, у наш гародзенскі край, і гэтым горкім дзяцінствам ачысьціў нашы душы, а сваім талентам злучыў нас з людзтвам.

Вясна 1991

ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА,
Дом-Музэй Максіма Багдановіча ў Гародні

**P.S.** Ды што сталася б са мною, калі б ня было Яго тут? Ад 1982 году я пад Ягоным крылом, за Ягонымі мужчынскімі плячамі. Ён ачышчае маю душу сваімі малітоўнымі вершамі. Да Яго прыходзяць людзі, а я іх сустракаю на парозе Яго Дому. А калі мне самотна ці нездаровіцца, хаваюся тут ад сьвету, у сьценах гэтага драўлянага дамку.

У тутэйшым краі ў нашым стагодзьдзі шмат перамагаюць — ворагаў, дрэннае надвор'е, родная бацьку, беларускасьць. Павярнулі на 180 градусаў — ізноў перамагаюць расейскасьць, вынікі Чарнобылю, роўнасьць у багацьці. Між тым лёс Багдановіча служыць прыкладам таго, што творцам спрыяльна пажыць, не выйграваючы змаганьня, церпячы паражэньне за паражэньнем, толькі ня спрыяць вершамі зблытаць айчыну з праведнага шляху, не стварыць кар'еры на яе няшчасьці, ня прымаць адцягнутых тэорый і сістэм за яе ратунак, прыватныя посьпехі і перамогі ў гуртках і партыях ня блытаць з посьпехамі Радзімы. Максім асьмельваўся быць першым хіба што там, дзе на той час нікога ня было — падымаў тую ці іншую дзялянку працы: мастацкі пераклад, літаратурную тэорыю і крытыку, палітычную публіцыстыку...

„Когда государство сталкивается с поэтом, мне так жалко бедное государство. Ну что государство может сделать с поэтом? Самое большое? Убить! Но стихи убить нельзя, они бессмертны, и бедное государство всякий раз терпит поражение”. Так сказаў Валянцін Сьценіч, сучасьнік Гумілёва.

Максім Багдановіч памёр сваёю сьмерцю, увагнаны ў сухоты ў маладосьці. Праху ж яго „ўдзячныя” нашчадкі спакою не даюць...

А цяпер як прыдумалі? Ператвараюць паэтаў у чыноўнікаў, каб яны самі сябе душылі. У кожным выданьні сядзіць „рэдактар”, у генах якога закладзены талент паэта, але так усё складваецца, што талент застаецца не рэалізаваным, а пакрыўджанаму вялікае жаданьне пакрыўдзіць і другога па ланцуговай рэакцыі... Так штучна ствараецца шэрая правінцыйная літаратура, другасная, залежная ад великой літаратуры.

Але ж паэты прыходзяць, як вёсны, пакуль іх ніхто ня ведае, ня душыць і не страляе. Узыходзяць, як сонейка ранкам. Калі іх сьвет заўважыць, яны ўжо прарваліся, адбыліся. Ужо пяюць сваю песьню. Разумны сьвет падхопіць песьню, падніме паэтаў на руках, глядзіць на іх у захапленьні, таму што паэты ўпрыгожваюць душу нацыі. Дурны сьвет пачынае дратаваць сваіх паэтаў, прымяраць да свайго ўзроўню, ператвараць у блазнаў. Так пераважна адбываецца тут, дзе народ забыўся пра незалежнасьць, прывыкнуў да рабства, нібыта ён і створаны, каб рабом быць. Але п а э т ы — в о л ь н ы я п т а х і. Пачалі выдумваць сумненьні адносна месца вечнага спачынку Максіма Багдановіча... П а э т н а н е б е. На зямлі сярод палёў цьвітуць яго вершы — в я н о к блакітных васількоў.



 

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

— 10 —

## II. Максім Багдановіч аб Беларусі

(Заканчэнне)

Алег Лойка ўспрыняў Багдановічавы пункт погляду на аднакласавасць беларускага народа крытычна. Але з апрабацыяй піша аб вырысаваных публіцыстам патрабаваннях тагачаснай беларускай грамадскасці, якія зводзіліся да: „выкладання ў народных школах на беларускай мове і ўвядзенні беларускай мовы ў цэркаў і касцёл. Менш увагі, — піша Багдановіч, — беларуская грамадская думка аддавала беларускай мове ў сярэдняй школе, універсітэце (дамагаюцца яго адкрыць у Вільні) і некаторых іншых дзяржаўных установах. Аднак і ў гэтай сферы яна мае некаторыя запатрабаванні. Нарэшце, ёсць яшчэ патрабаванне вылучэння Беларусі і Літвы, спаяных эканамічна, геаграфічна і гістарычна, у абласную адзінку з самакіраваннем. Думаецца, — заключаў ён, — што руская інтэлігенцыя можа сустрэць гэтыя спадзяванні і запатрабаванні з поўным спачуваннем" („Белорусы").

Аднак Багдановічу трэба было расчаравацца адносінамі некаторых прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі да беларускай справы. У чарговым артыкуле „На белорусские темы" ён выкрывае недарэчную прапанову царскага міністра Ігнацьева „зберагчы" беларусаў-католікаў ад паланізацыі шляхам увядзення ў касцёл замест польскай мову велікарускую. Вынікі здзяйснення прапановы Ігнацьева былі б жахлівыя: два мільёны беларусаў-католікаў павялічылі б колькасць польскага насельніцтва. У сувязі з такім паваротам наступіла б: па-першае, замена польскай мовы велікарускай (а з часам, як заўважае Багдановіч, замена каталіцызму праваслаўем), якая ажыццяўлялася б насільна, па-другое — беларусы-католікі, якія „і без таго знаходзяцца „ў сферы прыцяжэння" польскай культуры, акружаць польскую мову арэолам (...). Узнікне масавы стыхійны зрух у бок Польшчы (...)". І, што горшае, асцерагае Багдановіч, зрух гэты можа быць няўхільны. Паводле яго, „улада (...) зрабіла цяжкую памылку, прыглушаючы нацыянальныя сілы беларускага народа".

Калі чытаем гэты артыкул, а таксама заметку „Голос из Белоруссии", у якой аўтар пераконвае чытача, што навучанне дзяцей у школах (асабліва пачатковых) на велікарускай мове прыносіць ім шкоду, уражвае нас непасрэднасць выказвання маладога публіцыста. Не можам у гэтым выпадку не згадзіцца з А. Лойкам, для якога быў гэта „адкрыты бой ненавіснаму царызму і пэўна што найвышэйшы ўзлёт Багдановіча-публіцыста ў „абароне дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды".

Адна з перадапошніх публіцыстычных прац Максіма Багдановіча, „Аб веры нашых прашчураў", напісана ў канцы 1916 г., мела ўваходзіць праўдападобна ў склад беларускай хрэстаматыі, якую ён рыхтаваў. Падмацоўкай такога домыслу, паводле праф. І. Замоціна, з'яўляецца факт, што ў чарнавіку да канца нарысу аўтарам было дадана запытанне: „Якія звычаі і абрады спрадвечных часоў захаваліся ў вашай ваколіцы? Або якія ёсць наследаванні іх?". „Гэтая дапіска, — працягвае рэдактар збору твораў М. Багдановіча з 1928 г., І. Замоцін, — магла быць разлічана на школьную працу".

Нарыс „Аб веры..." пераклікаецца з нізкай вершаў „У зачарованым царстве". Незвычайна цікава расказвае аб бажаствах русічаў. Указвае на міфалагічнае, поўнае таямнічасці, успрыйманне прыроды. Пералічвае шэраг бажаствоў-апекуноў ці то земляробаў, ці то млынароў, ці то паляўнічых. Апісвае святкаванне народам калядаў, надыход вясны, Купалле. Астаткі многіх абрадаў, як сцвярджае Багдановіч, можам знайсці і ў сучасным жыцці. І якраз яны памагаюць нам пазнаць і зразумець веру нашых продкаў.

Тады ж, у час першай сусветнай вайны, выходзілі таксама з-пад яго пяра працы зусім іншага характару. Ён адкладаў у бок сваю паэтычную, крытычна-літаратурную, празаічную дзейнасць, каб пісаць пра тых, каго вайна выбіла з родных мясцін, паслала ў бежанства, асудзіла на голад. Так з'явіліся допісы: „Белорусский беженский приют", „Деятельность Минского белорусского комитета". Яны сталі аднымі з апошніх твораў Багдановіча, які перш чым сябры адправілі яго на поўдзень лячыцца, сам служыў ахвярам вайны і аб тым, што бачыў, інфармаваў зацікаўленых. Што ён канкрэтна рабіў у Мінскім аддзеле Беларускага таварыства не вядома, але, як сведчыць напісаны ім жа артыкул пра камітэт, усю яго дзейнасць ён ведаў дасканала. І пра тое, колькі платных начлежак для бежанцаў было арганізавана; хто і колькі сродкаў выдаткаваў на бясплатную сталовую і на платную; і пра індывідуальную грашавую дапамогу бежанцам; і пра дапамогу з уладкаваннем іх на працу і пра арганізаваны камітэтам для бежанцаў курсы садаводства, агародніцтва, пчалярства, стварэнне прытулку для 500 дзяцей і многае іншае. Аб бежанскім прытулку для дзяцей вельмі ж дакладна пісаў у допісе „Белорусский беженский приют". Асаблівую ўвагу звярнуў ён на яго беларускі народны характар. Захапляўся перш за ўсё тым, што ўсе размаўляюць па-беларуску, дзеці вучацца чытаць па-беларуску, пісаць, чытаюць кнігі на роднай мове, апранаюцца ў народную вопратку, якую нярэдка самі робяць. А ўсё гэта было магчыма, дзякуючы, паводле аўтара, зменам у 1905 г., калі беларусы атрымалі пэўную магчымасць развіцця нацыянальнай культуры.

Наканец некалькі слоў пра твор, які праўдападобна належыць пяру Максіма Багдановіча. Ніна Ватацы лічыць ім артыкул „Не жаласці, а праўды", змешчаны ў „Нашай ніве" за 1911 г., н-р 14, 7 красавіка. Як піша аўтар, „нельга катэгарычна сцвердзіць, але ёсць пэўны факты, якія наводзяць на думку, што названы артыкул належыць яму. Па-першае: ініцыяламі М. Б. Багдановіч падпісваў свае артыкулы, апублікаваныя ў газеце „Наша ніва" („Глыбы і слаі"), у яраслаўскай газеце „Голас" (артыкул „Безумец"), у часопісе „Украинская жизнь" (артыкул „Белорусское возрождение") і інш. У газеце „Наша ніва" акрамя артыкула „Глыбы і слаі" і „Не жаласці, а праўды", не змяшчалася больш артыкулаў на літаратурныя тэмы за подпісам „М. Б.". Аўтара ж артыкула „Глыбы і слаі" М. Б. рэдакцыя (...) лічыла сваім сталым супрацоўнікам па пытаннях беларускай літаратуры, аб чым яна паведамляе яе ў спецыяльнай зносцы да артыкула".

Зноску я цытавала падчас каменціравання артыкула „Глыбы і слаі", але паўтару яшчэ раз пачатак: „Пасля стацей аб нашых пісьменніках друкаваных у н-рах 38, 40, 43 „Нашай нівы" у тым годзе (1911, — Я.Т.), мы даём месца працы аб іх нашага пастаяннага супрацоўніка М. Б. ..." Таму і артыкул „Не жаласці, а праўды" падпісаны таксама, як і „Глыбы і слаі" крыптанімам М.Б., належыць (як сцвярджае Н. Ватацы) гэтаму „пастаяннаму супрацоўніку". Па-другое: „змест артыкула „Не жаласці, а праўды" і эпіграф да яго з верша Янкі Купалы „Чаго нам трэба" — „Не плакаць толькі, не раніць болькі, — болькі, якую нядоля дала" цесна звязаны з ідэйным зместам вершаў Багдановіча, якія напісаны ў 1911 г., асабліва з вершам „Кінь вечны плач свой аб старонцы...".

У артыкуле шырока цытуецца верш Купалы „А хто там ідзе?", у якім паэт стварыў вобраз беднага, сляпога і глухога беларускага народа, жадаючага не жаласці, — як каменціруе М.Б., — але ўвагі, пашаны, чалавечнасці.

Стыль артыкула, — паводле Н. Ватацы (а і я магу з яе думкай згадзіцца), — далёкі ад той разважлівасці, якая ўласціва іншым артыкулам Багдановіча. Але паколькі гэта яскрава палемічнае выступленне, таму можам дапусціць пэўнае стылявое разнагалоссе гэтага артыкула і іншых.

**ЯНІНА ТРАЧУК**

---

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСКАЯ МОВА

### ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**8.Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы — працяг.**

**Стараславянізмы.**

Стараславянізмы — гэта словы, запазычаныя са стараславянскай мовы. Уплыў стараславянскай (царкоўнаславянскай) мовы на беларускую мову нязначны. Ён абмяжоўваўся XIV—XVII ст.ст. і праяўляўся амаль выключна ў рэлігійных творах: *адъ, бремя, житие*. „Ужо з другой палавіны XVI ст., дзякуючы дзейнасці В. Цяпінскага і іншых беларускіх асветнікаў, наглядаецца моцная тэндэнцыя наблізіць мову рэлігійна-культавых твораў да жывой беларускай мовы. У выніку гэтага колькасць царкоўнаславянізмаў у беларускай літаратурнай мове рэзка змяншаецца, а ў далейшым яны наогул ужо не адыгрываюць у ёй істотнай ролі..."[1]

У сучаснай беларускай літаратурнай мове асталося ўсяго некалькі дзесяткаў слоў, якія паходзяць са стараславянскай мовы. У залежнасці ад семантычна-стылістычнай ролі іх можна падзяліць на дзве групы:

— намінатыўныя, якія выкарыстоўваюцца як агульнаўжывальныя словы-назвы і не маюць уласнабеларускіх адпаведнікаў, напр.: *вочы, дрэва, неба*;

— стылістычныя, якія ўжываюцца ў літаратуры з мэтай надаць мове ўзнёсласць, урачыстасць, напр.: *благаславенны, вяшчун, дзясніца, святыня, скрыжалі*. Яны часта маюць у мове стылістычна нейтральныя адпаведнікі, напр.: *скрыжалі — закон, чало — лоб."*[2]

У беларускай мове выступае група слоў з коранем *благ- (благі, блага, блазен, блазнюк, блазнота, паблажліва)*, якія маюць супрацьлеглае значэнне значэнню кораня *благ* — у стараславянскай мове.

**Русізмы**

Руская мова пачала праяўляць свой уплыў на беларускую ў канцы XVIII ст., пасля падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх земляў да Расіі. Тады ў беларускай мове паявіліся такія русізмы, як: *забастоўка, земства, саслоўе, ссылка*.

Асабліва многа русізмаў паявілася ў беларускай мове ў савецкі час. Гэта лексіка:

— бытавая: *засцёжка, мясарубка, керагаз*,

— грамадска-палітычная: *акцябраты, камсамол, савет*,

— тэхнічная: *адвёртка, балванка, вяртушка*,

— ваенная: *агнямёт, бранячасць, затыльнік*,

— назвы асоб паводле прафесіі: *абліцоўшчык, ваенрук, прафорг*.[3]

Многа слоў у беларускай мове было таксама створана шляхам калькавання адпаведных рускіх слоў, напр.: *абавязацельства* — рус. *обязательство, прадпрыемства* — рус. *предприятие, распрацоўка* — рус. *разработка*.

Калькаваліся таксама і абрэвіятуры, напр.: *выканком* — рус. *исполком, дзяржплан* — рус. *госплан, палітзаняткі* — рус. *политзанятия, ЦВК* — рус. *ЦИК*.

**Украінізмы.**

У беларускай і ўкраінскай мовах выступае вялікая колькасць слоў, супольных для абедзвюх моў, напр.: *акраец, бацькаўшчына, вербалоз, ежа, хлебароб*. З'яўляецца гэта вынікам іх генетычнай роднасці, а таксама супольнай гісторыі і таго, што беларускі і ўкраінскі народы на працягу XIV—XVI ст.ст. карысталіся адной пісьмовай мовай.

Украінская лексіка паявілася таксама ў беларускай мове праз пераклады твораў украінскай літаратуры, напр.: *кобза, хімерны, чупрына, шкаляр* у перакладах твораў Т. Шаўчэнкі, зробленых Я. Купалам.

У мове сучаснай беларускай мастацкай літаратуры ўкраінізмы нярэдка выкарыстоўваюцца ў стылістычных мэтах, напр.: *Спынілася (Гайная) каля Максіма — засмяялася. „Цябе не пазнаць, Антонавіч. А я вось, бачыш, не вытрымала.* **Патурбавалы** *вы мае старыя косці.* **Сказалы мені, шчо** *вы* **стовпы** *ставіце, і не стала мне ні спакою, ні сну нядзельнага, ні яды. Што ж* **цэ**, *думаю,* **таке** — *лінію праводзяць, а я нічагусенькі не ведаю. Ці не хочуць яны,* **бісавы** *дзеці, абдурыць мяне, старую* **жынку**?" (І. Шамякін. У добры час)[4]

————————

1 Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 148.

2 В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 52

3 Там жа, с. 53

4 Курс..., с. 151—152.

# Зорка
## старонка для дзяцей



*Алеся Максімюк ужо не раз наведала „Зорку".* **Фота А. Максімюка.**

******************************************************************

## АЛА САСКАВЕЦ
# КАЛЯДКІ

**Прадстаўленне паводле беларускага народнага фальклору.**

**Дзеючыя асобы**: Дзедка, Бабка, І-ая, 2-ая, 3-ая дзяўчынкі, Калядовы, Каза, Казёл, Бычок, Конік.

*Дзяўчаткі прыбіраюць у пакоі і співаюць:*

Ідуць калядкі, пячы аладкі.
Пячы аладкі пышны
ды гладкі...

**БАБКА** (*зайшоўшы з міскай у руках*). Напякла ўжо!.. А вы ж ці падрыхтаваліся калядаваць, унучачкі?

**І-ая**. Я хату падмяла...

**2-ая і 3-ая** (разам). А мы стол прыбралі...

**БАБКА.** Ну то адпачніце, паспявайце!.. *(Прысажваецца да стала).*

**ДЗЯЎЧАТКІ** *(спяваюць адна да другой.)*

**І-шая** *(да другой).* А твой Мікітка, ты паглядзіт-ка! (*Паказвае на акно.*) Па сялу ходзіць ды казу водзіць...

**2-ая** *(паглядзеўшы ў акно*).

А твой Юрачка усё не жэніцца,
Прыйдзе зімачка, дзе ён дзеніцца?..

*Усе весела смяюцца.*

**ДЗЕДКА** (*заходзячы ў хату*). От сарокі-белабокі! Распеліся, разгудзеліся... Спаць скаціне не далі... На ногі, вунь, яе паднялі. (*Паказвае за акно.)*

*Дзяўчынкі падбеглі да акна і глядзяць.*

**І-ая**. І праўда! Вунь наш конік стаіць і на мяне глядзіць...

**2-ая**. А бычок мне ківае...

**3-ая**. А мне козлік барадой трасе...

**І-ая**. Ой, дзедка, на дварэ ж ім халодна.

**2-ая**. ... А мо і галодна...

**3-ая**. ... Ды і страшна! Ночка ж надыходзіць...

**ДЗЕДКА.** Дзякаваць богу добрыя ў вас сардэчкі, дзяўчаткі. Зараз паклічу іх у хату — на калядовыя аладкі. (*Гукае за дзверы.)*

Заходзьце, даражэнькія, у хату...

*Заходзяць Казёл, Бычок, Конік.*

А каб сагрэцца, паскачыце з дзяўчаткамі лявоніху! (*Пачынае біць у бубен).*

**БАБКА** *(падыгрывае на лыжках і запрашае дзеда да танца).* Пакажам, дзедка, маладым, як лявоніху танцаваць трэба... (*Чатыры пары танцуюць. А закончыўшы, садзяцца адпачыць. Чуецца стук у дзверы).*

**ДЗЕДКА** (*адчыніўшы дзверы* ). Хто да нас ідзе і што ён нам нясе?

**КАЛЯДОВЫ.** Ідуць да вас калядовы. Ці прыняць вы іх гатовы?

**БАБКА.** Гатовы, гатовы! Заходзьце ў хату! Бліны, вунь, на стале, а прымаўкі ў галаве...

**КАЛЯДОВЫ.** Добры вечар хаце, ды яе гаспадарам!..

**ДЗЕДКА.** Адкуль, хлопец, ідзеш?

**КАЛЯДОВЫ.** Іду вакол света аж ад самага лета.

**БАБКА.** Адзін ідзеш?

**КАЛЯДОВЫ.** Не адзін. Ад лета іду і Казу вяду.

**БАБКА.** А дзе ж Каза?

**КАЛЯДОВЫ** (*выглядае за дзверы і падзывае).* Го-го-го, Казанька!
Го-го-го, шэранька!
Заходзь, Каза, у хату.
Пажадай людзям ладу...

*(Увайшоўшай Казе).* Павярніся, Каза, складна, пакланіся зграбна. Ды скажы, дзе хадзіла і што там рабіла.

**КАЗА** (*б'ючы ножкай і ківаючы рожкамі*). Дзе Каза паходзіць, там жыта зародзіць. А дзе не бывае — там вылягае...

*Дзяўчаткі пытаюцца, а Каза адказвае. (Можна спяваць).*

**І-ая.** А дзе Каза нагою?..

**КАЗА.** Там жыта капою...

**2-ая.** А дзе каза хвастом?..

**КАЗА.** Там жыта кустом...

**3-ая.** А дзе каза рогам?..

**КАЗА.** Там жыта стогам...

**ДЗЕДКА.** От дзякуй, Каза, што да нас зайшла.

**КАЗА** (*ладзячы харавод*). А каб у садзе грушы цвілі, ды каб грушы раслі, спявайце разам са мною:

А мы грушку пасадзілі (2 *разы*)
*Прыпеў* А я малада (маладзец)
топ-топ-топ!
А я малада (маладзец)
хлоп-хлоп-хлоп)
Наша груша расце, расце (2 р.)
*Прыпеў:*
Наша груша цвіце-цвіце (2 р.)
*Прыпеў:*
Нашы грушы растуць-растуць (2 р.)
*Прыпеў:*
Сталі грушу трэсці-трэсці (2 р.)
*Прыпеў:*
Сталі грушы есці-есці (2 р.)
*Прыпеў:*

*Пасля харавода Каза кладзецца адпачыць.*

**КАЛЯДОВЫ.**
Не кладзіся, Каза, усхапіся!
Гаспадыньцы ў ногі пакланіся!
Да саменькіх нажок
Мо і дасць піражок.

**КАЗА** (*кланяецца і кажа бабе*). Будзь, гаспадынька, здаровай і без дактароў,..

(*Дзеду.*) Мей, дзедка, усяго даволі, а бяды „ніколі!"

**ДЗЕДКА.** Дзякую, Шэра, што жадаеш шчыра. Частуйся за гэта. (*Падносіць пачастунак*).

*Пакуль Каза частуецца, усе прысутныя зарабляюць і сабе пачастункі: ходзяць і спяваюць:*

Стары год канчаецца,
Новы зачынаецца...

**( Працяг на стар. 10 )**

## Вершы Віктара Шведа

### ЯКАЎ ЗГУБІЎ САБАКУ

— Чаму ты плачаш, мілы Якаў?
— Прапаў учора мой сабака.
— Дык хутка напішы ў газету,
Падаючы яго прыкметы.
— Не можа здзейсніцца такое,
Забраў прыкметы ён з сабою.
Таму бездапаможна плачу,
Як гэту вырашыць задачу.

### ВАЛЕРКА ТРЫМАЕЦЦА ЗА ТАЛЕРКУ

Прыдуць дахаты сёння госці,
Сыночак хоча рабіць штосьці.
— Мама, табе разносіць буду
На стол усякую пасуду.
Матуля папярэдзіць хоча:
— Ты толькі не ўпадзі, сыночак.
— Не бойся, — адказаў Валерка, —
Трымацца буду за талерку.

### НА ПРАГУЛЦЫ РУЧКА

Малая Алёнка,
Бабуліна ўнучка,
Праз акно на вонкі
Прасунула ручку.

— Шпацыруюць людзі,
На двары так ціха,
Хай хоць ручка будзе
На прагулцы крыху!

### БАБУЛЯ ВЫХАВАЛА ДОНЮ

Матка пакарала сына —
Надта ж растрывожыў.
Ён спакойна і хвіліны
Пасядзець не можа.

Да бабулі прыбег Лёня,
Роў, каб усе чулі:
— Але ж выхавала доню
Ты сабе, бабуля!

### КАБ НЕ ПАКІНУЦЬ АДБІТКАЎ ПАЛЬЦАЎ

Настаўнік запытаўся Віцю,
Які заўсёды быццам мае рацыю:
— Чаму хірург працуе ў рукавіцах,
Калі праводзіць аперацыю?

Разумнік-вучань думае хвіліну,
Не адказаць дык будзе вельмі брыдка:
— Здаецца мне, не хоча ён пакінуць
Пальцаў сваіх на целе тым адбіткаў.



# ПАЗНАЁМІМСЯ

### ЛІСТЫ З ГОМЕЛЯ

*8 лістапада 1991 года, г. Гомель*

**Прывітанне ўсім беларусам Беласточчыны!**

**Прывітанне рэдакцыі „Ніва" і „Зорцы"!**

Піша вам **Алена**, настаўніца з Гомеля. Я, праўда, яшчэ не сапраўдная настаўніца, бо вучуся толькі на першым курсе філфака (завочна), а значыць не маю яшчэ патрэбнай адукацыі; тым не менш вучу пяцікласнікаў беларускай мове ды літаратуры.

Той, хто быў на Беларусі, ведае, што часам саміх беларусаў трэба пераконваць у тым, што ім патрэбна беларуская мова. З дзецьмі гэта крыху лягчэй, хаця і сярод іх ужо ёсць нацыянальныя нігілісты.

Вось што я ўздумала, пачытаўшы вашу газету і старонку для дзяцей. Ці не падыме прэстыж роднай мовы ў дзяцей той факт, што з яе дапамогай яны змогуць мець сяброў у іншых краінах? Беларусы ж ёсць і ў ЗША, і ў Канадзе, і ў іншых краях свету. Я калісьці ў маленстве дужа хацела перапісвацца з дзецьмі з іншых краінаў. Але ж дзеля таго трэба было ведаць мовы!

Рызыкуючы (рантам нічога не атрымаецца!), я прапанавала дзецям (па жаданню) напісаць кароценькі лісцік сябру ў Польшчы, даць аб сабе асноўныя дадзеныя. Можа, не трэба было абмяжоўваць іх фантазіі, няхай бы пісалі, колькі хацелі і што хацелі?

Гэтыя лісцікі я дасылаю вам, каб вы або надрукавалі іх, або проста аддалі ў якую-небудзь школу, дзе ёсць беларусы. Няхай бы пачалі ліставацца. Мо тады мае беларускія беларусы сталі б ахвотней вучыць сваю мову.

Я дасылаю 8 лістоў. Але, калі можна будзе, да гэтых дзяцей далучыцца яшчэ шмат, бо не ўсе паспелі прынесці лісты ў час. І аб'яву рабіла я толькі ў адным класе, а іх у мяне чатыры. Некаторыя ж проста не паверылі, што недзе ў Польшчы могуць ведаць беларускую мову, якую на Беларусі дужа занядбалі.

Як набачыце, шмат хто яшчэ жыве ў СССР, і памылак робяць дастаткова. Але для таго і справу гэту трэба распачаць, каб годнасць займелі і пісалі без памылак „Рэспубліка Беларусь". Гэта звычайныя дзеці са звычайнай „рускай" школы. Беларускую мову пачалі вывучаць год таму, у 4-м класе.

Я вельмі спадзяюся на вашу дапамогу.

Усяго вам добрага, і плёну ў працы.

Да пабачэння.

**Алена Краўчук**

* * *

Мяне завуць **Кася**. Я вельмі хачу перапісвацца з дзяўчынкай. Займаюся ў музычнай школе, вельмі люблю музыку, санаты. Іграю на віяланчэлі і фартэпіяна. Вучуся на чатыры і пяць.

Рэспубліка Беларусь, г. Гомель, вул. Хатаевіча, д. 45, кв. 34, **Май Кася**.

* * *

Мяне завуць **Міша** Казлоў. Я вельмі люблю шакалад. Я вучуся іграць на акардэоне. Я ўжо ездзіў у Нальчык, там цяпло.

Рэспубліка Беларусь, 246000, г. Гомель, 4-ы Свярдлоўскі праезд, дом н-р 12, **Казлоў Міша**.

* * *

Мяне завуць **Вольга** Ерына. Нарадзілася я ў Гомелі, 10 лістапада 1979 года. Я займаюся ў кружку вязання. У мяне ёсць сястра і брацік. Я вельмі хачу перапісвацца.

Рэспубліка Беларусь, 246021, г. Гомель, вул. Міжнародная, дом 27, кв. 3, **Ерына Вольга**.

* * *

Прывітанне, незнаёмы сябар з Польшчы! Маё імя — **Таня**. Мой родны горад — Гомель. Я люблю музыку і вучуся ў музычнай школе. У вольны час іграю на піяніна. У мяне ёсць папугай і рыбкі. Я збіраю маленькія каляндарыкі. Вучуся ў 5 класе. Чакаю адказу. Пішы!

Беларусь, 246047, г. Гомель, вул. Герцэна, д. 1, кв, 37, **Сафронава Таня**

* * *

Прывітанне! Мяне завуць **Лена**. Мне 11 гадоў, вучуся ў 5 класе. Я люблю музыку, займаюся ў музычнай школе. Вельмі чакаю адказу.

Рэспубліка Беларусь, 246047, г. Гомель, вул. Герцэна, д. 1, кв. 37, **Сафронава Алена**.

* * *

Прывітанне! Мяне завуць Глухенькая **Юлія**. Я нарадзілася 21 верасня, мне 11 гадоў. Я вучуся ў 5 класе. Хаджу ў музычную школу, у свабодны час іграю на піяніна. У мяне ёсць папугай. Збіраю маленькія каляндарыкі. Чакаю лістоў.

Рэспубліка Беларусь, г. Гомель, вул. Дзімітрава, д. 43, кв. 24, **Глухенькая Юлія**.

* * *

Мяне завуць Сахарава **Іра**. Нарадзілася я ў горадзе Гомелі, 4 верасня 1980 года, вучуся ў 5 класе. Хаджу ў музычную школу. Люблю чытаць.

Рэспубліка Беларусь, 246021, г. Гомель, вул. Герцэна, дом 23, **Сахарава Ірына**.

* * *

Прывітанне, мой невядомы сябра з Польшчы!!! Я вельмі хачу з табой пазнаёміцца. Мяне завуць **Саша**. Вучуся я добра, у 5 класе, Мне 11 гадоў. Нарадзіўся я 30 сакавіка. У вольны час займаюся музыкай, хаджу ў гурток спеваў. У мяне ёсць звяры: кот, рыбкі, папугай. Я збіраю паштоўкі. Пішы!

Рэспубліка Беларусь, 256021, г. Гомель, вул. Міжнародная, д. 1, кв. 11, **Грабчанкова Саша**.







# КАЛЯДКІ

**( Працяг са стар. 9 )**

З ранняю вясною, з буйнаю травою
З вясною яснай, і з долечкай шчаснай...

*Баба частуе ўсіх.*

**ДЗЕДКА.** Дзе ты, хлопча, такую казу раздабыў?

**КАЛЯДОВЫ.** Ды на кірмашы, вялікія грошы заплаціўшы...

**БАБКА.** А дзе гэтак складна баіць навучыўся?

**КАЛЯДОВЫ.** Па ўсім свеце ходзячы. Між людзей бываючы і кніжкі розныя чытаючы... А цяпер бывайце! Праз год нас чакайце!

*Каза не хоча выходзіць з хаты.*

— Ты, Каза, не упірайся! З гэтай
хаты выбірайся!
Нас чакаюць усюды, бо ведаюць
людзі:
Дзе каза пабывае, туды шчасце завітае. Так што,
Каза, пакланіся ўсім: старым і маладым, і малым...
З гэтай хаты выходзь, бяду гора выносЬ!

*Дзяўчынкі разам загаварылі:*

**1-ая.** Дзедка! Дазволь і нам пайсці...

**2-ая.** Дазволь, бабулька, і нам пакалядаваць.

**3-ая.** І нам жа хочацца людзям дабра пажадаць.

**ДЗЕДКА** (*да Бабкі*). Пусцім дзяўчынак пакалядаваць.

**БАБКА.** А мы і самі пойдзем. Бярэце нас?

*Усе разам весела адказваюць:*

Бярэм!.. Бярэм...

*Усе ўдзельнікі прадстаўлення збіраюцца адыходзіць. І тут некаму трэба сказаць ім:* „Бывайце, калядовыя, бывайце!
Нас не забывайце!
А каб вы нас і надалей
не забывалі,
Мы вам у торбачку
гасцінцаў наклалі."

*Удзельнікам аддаецца торбачка і ўсе выходзяць спяваючы:* „Ідуць калядкі, пячы аладкі. Пячы аладкі пышны ды гладкі..."



# Чаго перапёлка плача

Тата ўзяў Любачку на камбайн.

— Табе не надакучыла, дачушка? — спытаў ён, калі зажыналі новую палоску жыта.

— Ніколечкі! — ажывілася Любачка.

Вечарам вярталіся ў вёску. Ішлі па ржышчы. Пахла свежай саломай. З жытнёвага поля даносіліся нейкія журботныя гукі.

— Гэта перапёлка плача, — сказаў тата.

— А чаго яна плача? — націкавілася Любачка.

— Не ведаю, — прызнаўся тата. — Відаць, такая ў птушкі песня.

Любачка крыху падумала і кажа:

— Пагледзі, тата, якое калючае ржышча! Перапёлка ножкі пакалола, ёй баліць. Вось таму і плача. Трэба маму папрасіць, каб сандалікі ёй купіла. Толькі не такія, як у мяне, а маленькія.

— Добра, скажам маме, — радуецца тата, што ў Любачкі такое добрае сэрца.

Яны ідуць палявой сцяжынкай, і Любачка раз-пораз аглядваецца, нібы хоча ўбачыць перапёлку.

**Фама Рамашка**

# Вершы пра родную мову

### ЯНКА СІПАКОЎ

... Нібы маці, берагчы
Працаўніцу нашу — мову,
Бо яна — жыцця зачын
І пачатак песні новай.

За народ ісці на бой,
Помніць, правячыся боем,
Што стагоддзі за табой
І стагоддзі — прад табою...

### ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

... Нават сумная песня —
не плач па жывым чалавеку.
Тут былі беларусы.
Ёсць і будуць.
Іх мова спрадвеку.
На працягу стагоддзяў
абвяргаюць, знішчаюць прымусы.
На працягу стагоддзяў свабодна, высока
растуць беларусы!..
Беларускі народ
у вяках абакралі. Ён выжыў
і душу, і святочную песню,
і мову збярог...

**А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А**



**Праўдзі коцікаў да іх мамы так, каб не сустрэлі іх сабакі.**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ

**Флячкі**

На 1 кг флякаў (каровінага страўніка) трэба ўзяць 100 г саланіны, 4 лыжкі алею, 2 цыбуліны, 1 пор, паў селера, 2 морквіны, 250 г капусты (звычайнай ці валошскай), 100 г варанай фасолі, шклянку белага віна, 500—750 г бульбы, 1 маленькую баначку таматнага канцэнтрату, 1 лыжачку прыправы для супоў, 1 маленькі пучок зялёнай пятрушкі, 1 кілішак каньяку і паўтара літра булёну.

Вельмі дакладна памытыя флякі варыць з лаўровым лістком, 1—2 лыжкамі воцату і соллю на працягу 2—4 гадзін, пакуль не стануць цалкам мяккія. Астудзіўшы іх, нарэзаць тонкімі палосачкамі. На разагрэтым алеі растапіць нарэзаную дробнай костачкай саланіну. Калі будзе шклістая, дадаваць паступова дробна нарэзаную гародніну, віно і паўтара літра булёну, а таксама флякі. Закіпяціць, і варыць яшчэ прынамсі 1 гадзіну на невялікім агні. Варта дадаць яшчэ 1 кілішак каньяку. Тады дадаць сырую бульбу, нарэзаную скрылёчкамі, прыправу для супоў і варыць яшчэ 20 мінут. Дадаць нарэзаную зеляніну пятрушкі і таматны канцэнтрат. Замест фасолі можна ў канцы дадаць 100 г сырога рысу, і пакінуць яго ў флячках, каб „дайшоў" на невялікім агні. На талерках флякі пасыпаюць яшчэ сцертым на тарцы жоўтым сырам, найлепш „пармезанам".

**Флячкі па-неапальску**

На 1 кг флякаў узяць 2 цыбуліны, паўлітра белага віна, пучок зялёнай пятрушкі, мнагавата сцертага на тарцы сыру, 3 лыжкі алею.

Флякі зварыць так, як пададзена ў папярэднім рэцэпце. Нарэзаць іх палосачкамі і тушыць яшчэ больш гадзіны ў разагрэтым алеі разам з дробна насечанай цыбуляй і белым вінам. Падаваць з дробна нарэзанай зялянінай пятрушкі і сцертым „пармезанам".

Падрыхтоўка гэтай стравы не вымагае занадта вялікага высілку, наколькі не трэба яе даглядаць у часе гатавання і тушэння. Зрэшты, недарагая яна і вельмі смачная.

**Рагу з цяляціны па-неапальску**

На 500 г цяляціны трэба ўзяць 2 струкі папрыкі, 4 памідоры, 3 лыжкі алею, 2 цыбуліны, 125 г пячурыц, соль, перац.

Цяляціну нарэзаць дробнай костачкай і падсмажыць на алеі. Дадаць нарэзаную цыбулю, папрыку і грыбы, а ў канцы дробна нарэзаныя памідоры; усё прасыпаць соллю і перцам. Рагу будзе гатова больш-менш праз 20—25 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Піша табе маці, якая, можна сказаць, прайшла праз пекла. Выйшла замуж я за п'яніцу, з якім разыйшлася праз пяць гадоў. Столькі ўсяго дала рады вытрымаць. Мы разыйшліся, і я адна гадавала дачушку. Калі дачка падрасла, шчасце ўсміхнулася мне: я сустрэла вельмі добрага, вартаснага чалавека, за якога выйшла другі раз замуж. Усё было добра. Падабаўся ён дачцэ, нічога не прадвяшчала навальніцы.

Калісь дачку запрасілі сябры-студэнты на прыватку. Першы раз аддалася яна там хлопцу. Высветлілася неўзабаве, што зацяжарыла. Што мы ўсе перажылі — цяжка апісаць. Але перарываць цяжарнасці не раілі, хаця дачцэ было ўсяго 19 гадоў. Нарадзілася дзіцё, якое ўнесла ў наша жыццё неспадзявана шмат радасці. Мы з мужам найбольш і займаліся ім, бо дачка заканчвала вучобу ў вышэйшай школе. Мы кахалі яе дзіця, як сваё, а муж нават сказаў: „Бачыш, зусім не бяда, што ў нас з табою сваіх дзяцей няма. Гэтае ж наша!"

Але мучыла мяне ўсё ж адна справа: дачка была адна. Бацька яе дзіцяці ўжо даўно ажаніўся, меў нават дзяцей, але нашым унукам не цікавіўся, хаця да сёння рэгулярна плаціць аліменты. Я вельмі балюча перажывала гэта. І вось гэтым летам мая дачка пазнаёмілася з цудоўным хлопцам. Я заўважыла, як ажывілася яна, як расцвіла. Мне адлягло. А хлопец, калі прыходзіць да нас, дык нясе кветку не толькі дачцэ, але і мне. А часамі, калі праездам бывае ў нашым раёне горада, дык забяжыць хоць на паўгадзінкі — толькі, каб быць разам з дачкою.

І вось нядаўна запрапанаваў ёй шлюб. Мы з мужам найшчаслівейшыя людзі пад сонцам. А найбольш з тае прычыны, што наш унук для яго — як сын. І малы прападае за ім. Калі Павел (парачоны маёй дачкі) прыязджае, дык ужо наш унук ад яго не адыходзіць. Нешта разам будуюць, клеяць, майструюць — якога лепшага бацькі маглі б мы жадаць свайму ўнуку?! Нават пра нас ён пры гэтым хлопцу забываецца. Я думаю, Сэрцайка, што ты таксама за такую кандыдатуру?!

**Яніна**

Яніна! Табе ў жыцці не адразу пашанцавала — тваёй дачцэ — таксама. Нездарма людзі кажуць: як маці, так і дачка. Нешта ўсё ж у гэтым ёсць.

Бачу, што гэта добры кандыдат на бацьку, а што і на мужа таксама — відаць надта выразна з радаснай міны тваёй дачкі. Я — за. Жадаю ёй шчасця!

**СЭРЦАЙЦКА**

✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲✲

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Я асабіста набраў да Цябе такога даверу, што яшчэ раз асмелюся прасіць адказу на сон, які мне прысніўся ўжо даволі даўно, але ў гэтым годзе.

Менавіта, нібыта зайшоў я ў Дубіцкую царкву. Было ў ёй няшмат людзей, сярод якіх я ўбачыў малога, пакрыўленага, вельмі нізенькага, старога мужчыну, які ўсё плёўся ля мяне. Пасля глянуў я ўперад на правую сцяну і ў перспектыве, пад столлю ўбачыў маленькае ваконца, а ў ім блакітны кусочак неба. Пасля гэтае блакітнае ваконца павялічылася да памераў звычайнага акна, але толькі з адной шыбай. І вось тады, ды ў гэтай жа шыбе паказалася мне Божая Маці. Далей не памятаю нічога. Не, Божая Маці паплыла ўверх.

Астроне, што гэты сон мне прадказвае?

А другі сон прысніўся мне вельмі смешны. Быццам варыў я ў хаце поўны кацёл супу. Жонка мая якраз была ў ад'ездзе, дык я падумаў, што мо таму мне гэтак і прыснілася, бо трэба ж было самому сабе варыць, а заўсёды робіць гэта жонка.

**Твой Вася**

Вася! Першы твой сон сведчыць аб тым, што бываюць у цябе сумныя моманты, а навокал цябе шмат непрыхільных людзей. Справа ў тым, што ты быў у царкве, а там убачыў малога, пакрыўленага, старога мужчыну, які праследаваў у нейкай ступені цябе, бо ўвесь час быў побач. Мяркую, аднак, што сумныя дні ў цябе зменяцца на радасныя. Прынамсі так вынікае з твайго сну. Ты ж убачыў у гэтым смутку маленькі промень: ваконца, а ў ім блакітны кавалачак неба. Тым больш, што яшчэ паказалася табе ў гэтым ваконцы Божая Маці.

Што датычыць другога сну, дык сапраўды магчыма, што ён табе прысніўся, бо жонка была ў ад'ездзе. Але наогул хачу сказаць з поўнай адказнасцю, што калі сніцца, што варыш яду, значыць, што чалавек гэты творыць добрыя справы для людзей.

**АСТРОН**

*******************************************

**Праўленне суполкі „АМЕГА" паведамляе, што вядзецца скупка збожжа вільготнасцю да 16% у I і II ступені чысціні на экспарт у Рэспубліку Беларусь у ніжэй названых складах ПЗЗ:**

**— пшаніца — элеватары ў Бельску-Падляшскім, Граеве, Беластоку, а таксама склады ў Саколцы, Кляшчэлях, Ломжы і Шэпятове.**

**— авёс — элеватары ў Беластоку і Граеве, склады ў Бельску-Падляшскім, Кляшчэлях і Шэпятове.**

**— ячмень — элеватар у Беластоку, склады ў Саколцы і Кляшчэлях.**

**Збожжа купляецца па цэнах:**

**пшаніца — 80.000 зл. за 100 кг.**
**авёс — 53.000 зл. за 100 кг.**
**ячмень — 65.000 зл. за 100 кг.**

## МОЙ ПАЗЫЎНЫ UC 2 SBU

*Адзін з нашых супрацоўнікаў атрымаў ліст ад радыёаматара з Беларусі. Думаем, што закранутая ў ім праблема зацікавіць нашых чытачоў і таму прапануем абшырныя фрагменты з гэтага ліста.*

Завуць мяне Аляксандр Дзіндзікаў. Разам з жонкай Тацянай гадуем чатырох сыноў. Мы працуем сувязістамі. Наша сям'я мае шмат захапленняў. Галоўнае — гэта радыёаматарства, і маю пазыўны UC 2 SBU. Для правядзення сувязей карыстаюся самаробнай апаратурай. На Беларусі радыёаматарства развіта вельмі слаба. Вялікая праблема апаратура. У другіх краінах яна бывае ў краме, нашы крамы зараз зусім пустыя. Па сённяшні дзень ніводзін беларус не карыстаецца пры правядзенні радыёсувязей роднай мовай. Мару з дапамогай радыёаматарства заняцца папулярызацыяй роднай мовы на хвалях аматарскага эфіру. Шмат беларусаў валодаюць польскай, англійскай і іншымі мовамі. Ды і роднай напоўна валодаюць, толькі саромяцца. Нічога не зробіш, такія мы беларусы. Але трэба камусьці першаму пачынаць. (...)

Мне патрэбная добрая апаратура, каб можна было працаваць на ўсіх дыяпазонах. Шукаю тых людзей, хто змог бы мне дапамагчы яе набыць. На жаль, на савецкія грошы „KENWOOD" купіць нельга. Не ведаю як каму, а мне за гэта вельмі сорамна. Сорамна за нашу краіну.

Я зрабіў размоўнік для правядзення радыёсувязей на беларускай мове. Ён пакуль у адным экземпляры. Гатоў размнажаць яго ўручную, каб толькі былі жадаючыя ім карыстацца.

Маю шмат добрых задумаў. Па-першае, трэба будзе стварыць клуб радыёаматараў, якія будуць карыстацца ў эфіры роднай мовай. Новага тут нічога няма. Такі клуб стварылі ўкраінцы. Галоўнае, трэба будзе выязджаць у радыё-экспедыцыі са сваёй апаратурай і папулярызаваць радыёаматарства сярод сельскай моладзі. Толькі калі моладзь падтрымае, будзе з гэтага вынік. Добра, калі б сярод моладзі Беласточчыны былі аматары — свядомыя беларусы. З цягам часу мару пабыць на Беласточчыне. Думаю, што калі ў Вас няма ніводнага радыёаматара, то пасля майго візіту хоць адзін зоймецца. Так здарылася пасля таго, калі я наведаў горад Рагачоў са сваёй апаратурай. Зараз там ужо ёсць некалькі аматараў.

Мне даводзілася праводзіць сувязі са шматлікімі радыёстанцыямі з Польшчы. Ці ёсць беларусы ў горадзе Аўгустаў? Я звязаўся з SP 4 MPO (Багдан Анышкевіч). Яшчэ памятаю, былі сувязі з гарадамі Бельск-Падляшскі, Лапы і іншымі. Мой адрас:

**Беларусь,**
**213827, г. Бабруйск-27**
**паштовая скрынка 5**
**Аляксандр Дзіндзікаў**

# НІЎКА

## ПАРОДЫІ
### НЕ МАГУ БЕЗ ПАПРУГІ

*... Ачышчаю сябе ад усяго благога...*
*... А мо ляжыць, ляжыць яшчэ*
*Ля пуні бацькава папруга?..*

**Мечыслаў Шаховіч**

Што рабіць?
Што рабіць мне з сабою?
У мяне не характар, а здзек.
Магу вытварыць раптам такое...
Хоць і сталы ўжо я чалавек.

Разыдуся падчас, насваволю,
Так паддамся спакусам благім,
І такую пачуццям дам волю,
Што губляю свой розум зусім.

А пасля возьме гэтакі сорам,
І дакор гэтак сэрца скубе,
Што я месяц хаджу невясёлым,
Ачышчаю ад бруду сябе.

Потым зноўку псуюся знянацку...
Трэба, трэба папругу шукаць.
Можа, хтосьці, як некалі бацька,
Чалавекам паможа мне стаць?

**МІХАСЬ ПАЗНЯКОЎ**
**(„Полымя")**

## ПРЫЛАДА

Пайшоў Ігнат у лес самагонку гнаць. Не паспеў ён апаратуру ўстанавіць, як з'явілася міліцыя:

— Прыдзецца пасядзець крыху, — палохае міліцыянер.

— За што? — здзіўляецца Ігнат.

— За тое, што вы хацелі самагонку гнаць.

— Але ж я нічога яшчэ не рабіў?

— Нічога. Але прылады ёсць, — даказвае міліцыянер.

— Калі так, дык судзіце мяне і за гвалт! — кажа Ігнат.

— За гвалт? — здзіўляецца міліцыянер.

— Так! Дзеля гэтага ў мяне таксама прылада ёсць! У штанах!






–*Мама, тата забраў у мяне бінокль!* **Мал. А. Адамовіча.**

## АКСЕЛЕРАЦЫЯ

— Іваноў, каб заўтра без бацькоў у школу не з'яўляўся, — кажа настаўніца.

— Мар'я Іванаўна, але яны з намі не жывуць...

— Прабач, калі ласка, — збянтэжылася настаўніца, — я не ведала. Тады няхай бабуля або дзядуля прыйдзе.

— Дык жа няма ні бабулі, ні дзядулі.

— Ну тады — старэйшы брат ці... хто там яшчэ...

— Добра, — рашуча махнуў рукой Іваноў. — Ленка, хадзі сюды!

Падыходзіць аднакласніца Іванова, якая ўвесь гэты час стаяла ля дзвярэй і ўважліва слухала гаворку.

— Пятрова, гэта што? — здзіўлена наставіла на яе вочы настаўніца. — Іваноў — твой брат?

— Чаму брат? Мы з Івановым — сям'я...

**Герман Маскаленка**

## ЗА ТАЛОН

У Лёнькі Бульбачкі пасля ўчарашняга не засталося нават рубля. Увесь дзень толькі і думаў Лёнька пра пахмелку. Хацеў ужо паехаць да кума ў госці, ды не знайшоў веласіпеда ў хляве. „Пэўна зноў у сябра забыўся", — падумаў ён. Бачыць: ідзе ў хату Міхась — ягоны напарнік, бутэльку на стол ставіць.

Выпілі сябры па шклянцы.

— За што, Міхась, п'ём? — пытаецца Лёнька.

— Ды за твой веласіпед, — адказаў сябра.

— Ты што, забыўся, што ўчора памянялі яго на гарэлачны талон?

**Людміла Маршаловіч**
**(„Вожык")**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Стаіць вар'ят на аўтобусным вакзале ў Гайнаўцы і крычыць:

— Гляньце, што я ўмею! Я зараз жа аўтобус адпраўлю!

Тут пад'ехаў аўтобус, а ён выняў з кішэні чырвоную латку і кажа:

— А ну, рыхтуйся!

Пасажыры занялі свае месцы, вадзіцель стаў збірацца ехаць. Вар'ят махнуў латкай і крыкнуў:

— Едзь хутчэй!

Аўтобус паехаў.

* * *

Жанчына ўбачыла на тратуары тысячу злотых. Падняла іх і схавала ў кашалёк. Убачыў гэта мужчына і кажа ёй:

— Не ведаў я, што ёсць яшчэ такія дзіўныя людзі, як вы.

— Чаму так гаворыце? — здзіўляецца жанчына.

— Аплацілася вам за такія грошы гнуць спіну?

* * *

— Юзік, — гаворыць з плачам дзяўчына, — чаму ты так робіш? Гаварыў, што ты мяне кахаеш, а цяпер, калі я зацяжарыла, ты пакідаеш мяне.

— Я ж табе заўсёды гаварыў, што цябе адну ніколі не пакіну, — адказвае хлопец.

* * *

Сідар піў амаль усю ноч. Недзе на досвітку прыплёўся дахаты і заснуў. Прачнуўся вечарам. Калі выйшаў на двор і глянуў на неба, здзіўлена закрычаў:

— Людзі, глядзіце, будзе нейкае няшчасце на Зямлі! Сонца на захадзе ўзыходзіць!

* * *

— Я сямнаццаць гадоў вучыўся, — хваліцца Максім.

— А які універсітэт ты закончыў? — пытаюць людзі.

— Пачатковую школу, — прызнаецца Максім.

**АЎРОРА**

************************************************************

## КАСЯК НА „Д"

**Управа:** 1) палка, на якой сцяг, 2) тонкі і доўгі, можа быць калючы, 3) на Ютландыі і не толькі, 5) усё, што маем у гаспадарцы, 7) махае рукамі перад спевакамі, 10) паміж гор, 12) папрок, незадавальненне, 13) 8.12.1991.

**Улева:** 1) музыка, у якой пераважаюць духавыя і ўдарныя інструменты, 2) тонкая дошчачка, 4) перавышэнне расходаў над даходамі, 6) адно з шасці знешніх пачуццяў, 8) дух, які жыве ў доме, 9) можа ляжаць на падлозе або ўпрыгожваць сцяну, 11) спалучае мясцовасці, 14) порцыя лякарства.

**„ ядань"**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 42: Управа:** барока, брат, біржа, будынак, беларус, багіня, Басра, бакі. **Улева:** блін, блузка, Брэжнеў, барыш, баравік, базар, Батумі, бруя.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.

************************************************************

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa

1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.

2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.

3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł. a od 1 stycznia 1992 r. - 3000zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- grudzień - 12. 500 zł
- styczeń - 12. 000 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.